PL ISSN 0546—1960
Nr INDEKSU 366714
№ ІНДЭКСА Ў КАТАЛОГУ „САЮЗДРУКУ“ 36911

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 8 (1815) ГОД XXXVI БЕЛАСТОК 24 ЛЮТАГА 1991 г. ЦАНА 800 зл. (50 кап.)

# ПАЖАР НА ПЛЯБАНІІ

Уначы, з суботы на нядзелю 2—3 лютага, настаяцеля царквы св. Ганны ў Каралёвым Мосце айца Яўгена Міхальчука і ягоную матушку разбудзіў нейкі шум і трэск на кухні. У першую хвіліну прыйшло ім на думку, што на плябанію ўзламаліся зладзеі і шныраць па памяшканнях. Таму яны хвілін колькі вагаліся, пакуль рашылі адчыніць дзверы і заглянуць, што там дзеецца. Калі заглянулі, то ўбачылі, што з кутка, распаўзаючыся па сценах, шугае агонь, ажно пад столь. Было недзе каля першай.

Айцец Я. Міхальчук з'яўляецца настаяцелем парафіі ў Каралёвым Мосце з 1982 года. Парафія невялікая, знаходзіцца ў пушчы па дарозе з Беластока ў Гарадок і налічвае няшмат больш за 500 душ. Клопату і трывогі айцу-настаяцелю хапала дагэтуль і без пажару свайго дому. Раней ужо быў узлом у ягоны гараж — зладзеі адкруцілі і забралі колы ад самахода. У лістападзе мінулага года злачынцы ўзламаліся ў царкву — іхняй здабычай сталіся 13 каштоўных іконаў, даразахавальніца, літургічнае начынне, Евангелле ў каштоўным пераплёце, напрастольны крыж і плашчаніца. Паліцэйскі росшук не даў аніякіх вынікаў.

З кухоннага крана налілося толькі адно вядро вады. Патушыць агонь гэтай вадою было немагчыма. Святло на плябаніі ўжо не дзейнічала. Аставалася клікаць людзей на ратунак і выносіць з плябаніі тое, што ўдасца. Пажарнікаў паведамілі праз тэлефон, які знаходзіцца ў мясцовым асяродку здароўя. Першаю прыехала пажарная каманда з Беластока — у іх кругласутачны дазор. Пазней даехала яшчэ сем пажарных камандаў з навакольля. Магчыма, што страты ў пажары былі б меншыя, калі б беластоцкія пажарнікі пачалі гасіць агонь адразу. Але на месцы аказалася, што ў шлангах пры помпе замерзла вада і ніяк не ўдаецца выпусціць струмень. Вада палілася тады, калі ўжо ўпала апошняя кроква.

Удалося вынесці з пажару нешта з вопраткі, з кухоннага посуду. Аднак жа большасць з хатняга дабра згарэла. На пажарышчы засталіся адно абгарэлыя знутры сцены і коміны. Уступнае заключэнне наконт прычын пажару — аварыя электрычнай праводкі...

Пакуль што айцец Міхальчук з матушкай памясціліся ў асяродку здароўя.

Працягваецца чорная серыя няшчасцяў і бедаў Праваслаўнай царквы на Беласточчыне. Пажары, узломы, крадзяжы... Людзі мяркуюць па-рознаму. Несумненна аднак тое, што ўсе гэтыя выпадкі, асабліва за апошні год-паўтара, пасеялі сярод людзей трывогу і разгубленасць... Што будзе далей? Насцярогу сярод грамадскасці выклікае неэфектыўнасць паліцыі ў выкрываванні злачынстваў... Звыш паўгода мінула пасля пажару царквы на Грабарцы. Злачынца нібыта схоплены, але нічога не чуваць пра вынікі расследавання, пра суд...

Архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі, уладыка Сава, з якім я правёў размову пасля пажару ў Каралёвым Мосце, сказаў, што кожны тэлефонны званок да яго ў пазнейшую пару адразу выклікае неадчэпнае трывожлівае пытанне: а якая бяда цяпер? І, мабыць, бачачы маю панурую міну, дадаў: „Нічога, нічога, з намі Бог!“

Так, з намі Бог...

**Ян Максімюк**
Фота аўтара





## НА МЯЖЫ

— 27 —

# АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

Толькі што вярнуўся я з Мінска і Гародні. На жаль, не знайшоў там таго, чаго спадзяваўся. Думалася мне, што на працягу апошніх месяцаў беларусізацыя пайшла наперад. На жаль, так не сталася. Наадварот, здаецца мне, што некалькі месяцаў таму назад у беларускай рэчаіснасці было намнога больш аптымістычных элементаў, чым сёння. Чаму? Адказаць на гэтае пытанне цяжка, асабліва чалавеку, які не жыве на Беларусі пастаянна. І таму звярнуўся я да некалькіх маладых знаёмых, якія былі прыхільнікамі Беларускага народнага фронту. Гэтыя маладыя людзі сцвердзілі, што прытармажэнне працэсу беларусіфікацыі звязана са спадам папулярнасці БНФ. Паводле іх, БНФ вельмі моцна пашкодзіў сабе акцыяй пад помнікам Леніну ў Мінску. Трэці з маіх размоўцаў звязваў паслабленую дынаміку беларускага адраджэння з „контрнаступленнем“ камуністычнай партыі Беларусі. Так ці інакш, вуліцы Мінска ці Гародні, а таксама ўстановы ў далейшым апанаваны расейшчынай, якой беларуская мова пакуль што не роўная.

Усё гэта выклікае ў мяне сумныя рэмінісцэнцыі. Хаця гэта і дзіўна, але супраць беларушчыны дзейнічаюць сёння тры, здавалася б, супрацьстаўныя сілы. Адна з іх — партыя, другая — Праваслаўная царква, трэцяя — Каталіцкі касцёл. Пакуль што і не відаць сімптомаў, якія маглі б сведчыць аб тым, што гэтыя тры структуры імкнуліся б заклік да беларусізацыі напісаць на сваіх штандарах. Зразумела, што партыя і Праваслаўная царква абапіраюцца на расейшчыне, а Каталіцкі касцёл — на пальшчызне. Аб'ектыўна ўсе гэтыя сілы дзейнічаюць у некарысць беларускага адраджэння. Праўда, сутыкнуўся я з двума нечаканымі і вельмі прыемнымі фактамі. Першы — непасрэдная размова з міністрам замежных спраў Краўчанкам, які беспамылкова валодае беларускай мовай. Другі — размова па тэлефону з міністрам культуры Вайтовічам, які таксама гаварыў са мною па-беларуску. У размове з Вайтовічам я не мог устрымацца ад пахвалы ў яго адрас. Справа ў тым, што ў часе нядаўніх урачыстасцей, прысвечаных 500-годдзю Скарыны, Вайтовіч гаварыў па-беларуску досыць слаба. Сёння гаворыць досыць свабодна. На маю заўвагу аб тым, што добра гаворыць па-беларуску, адказаў: „Яшчэ не зусім добра, аднак вучуся і думаю, што ў хуткім часе авалодаю поўнасцю“.

Прыемны гэта момант, аднак рэдкі ў партыйным і ўрадавым беларускім жыцці. Беларусь, як і ўсе савецкія рэспублікі, знаходзіцца напярэдадні рэферэндума, які вырашыць лёс Савецкага Саюза і незалежнасць або залежнасць паасобных народаў. Быць можа, я буду дрэнным прарокам, але здаецца мне, што большасць беларусаў прагаласуе за Савецкі Саюз, а не супраць яго. Гэта будзе абазначаць, што Беларусь застаецца ў рамках СССР, які, праўдападобна, будзе называцца па-другому. Воля большасці мусіць абавязваць і меншасць. І таму трэба будзе яе ўшаноўваць. Аднак гэта не абазначае рэзыгнацыі з нацыянальных беларускіх імкненняў. На маю думку, працэс беларускага адраджэння можна прытармазіць, але нельга яго ліквідаваць. Раней ці пазней Беларусь мусіць пайсці шляхам уласных нацыянальных ідэалаў і ўсе партыі і ўсе рэлігіі, якія дзейнічаюць на тэрыторыі Беларусі, мусяць карыстацца беларускай нацыянальнай мовай.

**Алесь Барскі**

## З МІНУЛАГА ТЫДНЯ

**Прэзідэнт СССР Міхаіл Гарбачоў** даў прапанову ліквідаваць у тэрміне да 1 красавіка вайсковую структуру Варшаўскага дагавора. Гэтая прапанова была прадстаўлена ў лісце да прэзідэнта Чэхаславакіі **Вацлава Гавела.** Такі ж ліст перадаў прэзідэнту Польшчы **Леху Валэнсу** прадстаўнік Савецкага пасольства ў Варшаве **Леў Кляпацкі.** Прэм'ер-міністр Венгрыі **Іожэф Антал** заявіў, што 25 лютага адбудзецца сустрэча міністраў абароны і замежных спраў дзяржаў-удзельніц Варшаўскага дагавора з мэтай падрыхтаваць патрэбныя дакументы для ліквідацыі гэтай структуры.

**Прэзідэнт Лех Валэнса** выказаўся за магчыма найхутчэйшае правядзенне парламенцкіх выбараў. Прапанаваны тэрмін — 26 мая г.г.

**У Вышаградзе** (Венгрыя) сустрэліся прэзідэнты: Чэхаславакіі — **Вацлаў Гавел, Польшчы — Лех Валэнса** і прэм'ер-міністр Венгрыі **Іожэф Антал** з мэтай давесці да больш цеснага супрацоўніцтва і інтэграцыі гэтых дзяржаў. У Вышаградзе шэсць стагоддзяў таму назад сустракаліся каралі: Польшчы — **Казімеж Вялікі,** Чэхіі — **Ян Люксембургскі** і Венгрыі — **Караль Роберт.**

**Урад СССР апрацаваў праект павышэння цэнаў.** Прадбачвае ён павысіць ад 1 сакавіка г.г. цэны на прамысловыя і харчовыя тавары. Насельніцтву будзе дана кампенсацыя, якая павінна лагодзіць павышаныя кошты ўтрымання.

**Урад БССР заявіў, што не будзе самастойна ўводзіць павышэння рознічных цэнаў.** Прадстаўнікі Беларусі разам з іншымі рэспублікамі і ўладамі СССР працуюць над супольнай канцэпцыяй палітыкі цэнаў.

**У Беластоку стварыўся Фонд „Адзіная Еўропа“** (One Europe Foundation). Яго мэты — наладжванне кантактаў і супрацоўніцтва Беластока з іншымі гарадамі Еўропы, распаўсюджванне еўрапейскага мадэлю прадпрыймальнасці, ліквідацыя моўных, гаспадарчых і культурных бар'ераў.

**XX Біялагічная алімпіяда.** Акруговыя элімінацыі гэтага конкурсу для моладзі сярэдніх школ праходзілі ў Медыцынскай акадэміі ў Беластоку пад лозунгам: „Біятэхналогія і біяманіпуляцыя“. Удзельнічалі ў іх 47 вучняў з Беластоцкага, Ломжынскага і Сувальскага ваяводстваў. Журы, якому старшыняваў **праф. Васіль Чачуга,** вылучыла 10 асоб на **цэнтральныя** элімінацыі. Сярод пераможцаў трое вучняў з Агульнаадукацыйнага ліцэя імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім: **Рэната Падалец, Аліна Масальская і Яанна Екатарынчук.**

**Лік беспрацоўных павышаецца.** У канцы студзеня на Беласточчыне было іх 30427 чалавек, у тым ліку 14052 жанчыны. У тым часе было 940 свабодных месц працы.

**Беластоцкае таварыства эсперантыстаў** ужо зарэгістравана. Беластоцкія энтузіясты эсперанта рашылі стварыць самастойную, незалежную ад варшаўскага цэнтра арганізацыю.

**Камісія па справах ліквідацыі РСВ „Прэса — Кніга — Рух“ аб'явіла продаж з аўкцыёну „Газеты Вспулчэснай“.** Прапанаваная цана — 1,5 мільярда злотых.

**15 лютага Ваяводскі суд у Варшаве зарэгістраваў Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне.** З гэтага дня БДА карыстаецца правам юрыдычнай асобы.

### ВЫСТАЎКА ЛЁНІКА

**1 сакавіка (пятніца) а 18 гадзіне ў гарадской ратушы ў Беластоку адкрываецца персанальная выстаўка карцін Лявона Тарасэвіча.**

## З ДРУКУ

*„Gazeta Wyborcza“ у 29 нумары ад 4 лютага 1991 г. змясціла інфармацыю пад загалоўкам „Białostocczyzna — polszczyzna“. Ніжэй даем поўнасцю тэкст у перакладзе на беларускую мову.*

Не ашуквайма — Сталін мог у 1945 годзе размежаваць этнічна Беласточчыну, але не быў у гэтым зацікаўлены. Хацеў пакінуць у межах польскай дзяржавы „чужое цела“, нязначнае, але даволі вялікае, каб выкарыстоўваць яе для антаганізавання грамадства, — гаварыў д-р Юры Туронак на польска-беларускай сустрэчы, арганізаванай у чацвер (31 студзеня — рэд.) таварыствам „Памост“ у Варшаве.

Палемістам д-ра Туронка, беларускага гісторыка і публіцыста з Варшавы, быў Гжэгаж Кастжэва-Зорбас, віцэ-дырэктар Дэпартамента Еўропы МЗС.

Паводле д-ра Туронка, сярод беларусаў у БССР пашыраецца боязь перад новай хваляй паланізацыі, якая асабліва кранае каталіцкае насельніцтва. Гэту боязь падзяляюць як „нацыянальныя камуністы“ (да якіх можна залічыць міністра замежных спраў Краўчанку), так і апазіцыя.

Калі ў час візіту міністра Скубішэўскага ў Мінск (у кастрычніку мінулага года) беларускі бок узняў „праблему Беласточчыны“, дык думаў ён не столькі пра тэрытарыяльныя змены, колькі пра выкліканне ўражання на польскіх беларусах.

Д-р Туронак высветліў паставу Краўчанкі (які адмовіўся ў Мінску падпісаць польска-беларускую дэкларацыю), спасылаючыся на вынікі прэзідэнцкіх выбараў на Беласточчыне (беларусы ў першым туры падтрымалі Ціманшэвіча, а ў другім — Тымінскага).

— Маючы да выбару Расію і Польшчу, беларусы, мабыць, выкажуцца за Расію, — зрабіў вывад.

— Вынікі візіту ў Мінск сапраўды „выклікалі ўражанне“, — адказаў Кастжэва-Зорбас, — але бадай на польскіх жыхарах Беласточчыны. Зрабілася гэта коштам яснасці польска-беларускіх стасункаў і коштам апініі Беларусі ў свеце. Палякі рашыліся на вялікі высілак адкінуць багаж гісторыі ў адносінах з немцамі. Непадпісанне дэкларацыі ў Мінску не перакрэслівае значэнне беспрэцэдэнтнага візіту польскай урадавай дэлегацыі ў „сталіцу БССР“. Перамовы працягваюцца на ўзроўні экспертаў, рыхтуецца таксама рэвізіт у Польшчу міністра Краўчанкі.

### БЕЛАСТОК — ГРОДНА

Гродна і Беласток супрацоўнічаюць ужо даўно. Нядаўна па запрашэнню старшыні Аблвыканкома ў Гродне Дзмітрыя Арцымені прабывала ў гэтым горадзе дэлегацыя з Беластока на чале з беластоцкім ваяводам Станіславам Пруцісам. Тэмай перагавораў былі гаспадарчыя пытанні і актуальныя грамадскія праблемы.

Галоўнай мэтай было падпісанне пагаднення аб супрацоўніцтве Беластоцкага ваяводства і Гродзенскай вобласці. Вырашана стварыць супольную ўстанову, прадстаўніцтвы якой знаходзіліся б у Беластоку і Гродне і якая займалася б праблемамі гаспадарчага супрацоўніцтва, у тым ліку тавараабменам, арганізацыяй сеткі магазінаў польскіх і беларускіх фірмаў, наладжваннем гандлёвых кантактаў між польскімі і савецкімі фірмамі, а таксама арганізацыяй гандлёвых прадстаўніцтваў.

Грамадскія праблемы датычыліся галоўным чынам падрыхтоўкі да візіту папы Яна Паўла II у Беласток у чэрвені г.г. і арганізацыйных прынцыпаў удзелу пілігрымаў з Беларусі ва ўрачыстасцях з нагоды папскага візіту.

**Прэсавы прадстаўнік ваяводы Барбара Гадлеўская**

# ЗАЯВА

## Ў СПРАВЕ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ МЕНШАСЦЯЎ

Наш рэгіён, які знаходзіцца на перакрыжаванні гісторыі, народаў, культур і рэлігій, з'яўляецца супольнай айчынай пражываючых тут беларусаў, літоўцаў, украінцаў, татараў, яўрэяў і палякаў.

Так як рашуча падтрымоўваем незалежніцкія памкненні народаў развальваючагася Савецкага Саюза, так як катэгарычна дамагаемся поўнай пашаны да імкненняў палякаў, пражываючых у Савецкім Саюзе, так аднолькава рашуча і катэгарычна будзем падтрымоўваць памкненні пражываючых сярод нас народаў і нацыянальных меншасцяў.

Будзем рашуча супрацьстаўляцца тым усім партыям і арганізацыям, якія будуць прапаведваць або прабаваць увесці ў жыццё шавіністычны прынцып, што толькі „паляк-католік" можа быць поўнапраўным грамадзянінам Рэчыпаспалітай.

Хочам, па меры нашых магчымасцяў, падтрымоўваць усе памкненні этнічных групаў, пражываючых у нашым рэгіёне, калі будуць яны згодны з прававой сістэмай у нашай краіне і не супярэчны з праграмай Польскай сацыялістычнай партыі.

**Акруговая канферэнцыя дэлегатаў Польскай сацыялістычнай партыі Паўночна-ўсходняй акругі.**

**Беласток, 3.02.1991 г.**

## НА РАХУНАК „БЕЛАВЕЖЫ"

...паступаюць чарговыя ахвяраванні. Паведамляем, што атрымалі мы ўплаты ад **Мікалая Панфілюка** з Дубіч-Царкоўных (40.000 зл.) і **Тэрэсы Занеўскай** з Беластока (100.000 зл.). Ахвярадаўцам выказваем шчырую падзяку, а чытачам напамінаем наш рахунак: **PBK I Oddział Białystok 370406-200107-132 Białoruskie Stowarzyszenie Literackie „Białowieża".**

**Управа „Белавежы"**

# ГДАНЬСКАЯ ХРОНІКА

У лістападзе мінулага года адбылося спатканне дзеячоў Гданьскага аддзела Беларускага грамадска-культурнага таварыства з прадстаўнікамі Ваяводскай управы. Спатканне было арганізавана па ініцыятыве віцэ-ваяводы праф. Юзэфа Бажышкоўскага. З боку Беларускага таварыства прысутнічалі: Міхась Куптэль, Лена Глагоўская і Анна Іванюк.

На працягу 24 гадоў існавання БГКТ у Гданьску нямала было сустрэч з уладамі горада і ваяводства, але якраз гэта заслугоўвае на асобую ўвагу. Гаварылася на ёй пра спосабы ўстанаўлення пастаянных кантактаў і супрацоўніцтва Ваяводскай управы і нашага Таварыства. Размова працягвалася даволі доўга таму, што віцэ-ваявода і кіраўнік аддзела грамадзянскіх спраў праяўлялі шчырае зацікаўленне нашай дзейнасцю, напрамкамі працы і планамі. Абавязаліся яны несці ўсебаковую дапамогу беларусам, якія прагнуць захаваць сваю культурную і этнічную тоеснасць. З боку гаспадароў адчувалася заахвочванне да цвёрдай працы, да шанавання багатай спадчыны нашага народа, якая так выдатна ўплывае на ўзбагачэнне польскай і сусветнай культуры.

У пэўным моманце гаспадар спаткання папрасіў нас, каб мы гаварылі па-беларуску, а калі так сталася, сам пачаў размаўляць па-кашубску. Аказваецца, беларуская мова мае многа супольнага і з кашубскай. Мы дасканала разумелі адзін другога. На заканчэнне атрымалі мы больш дзесяці кашубскіх кніжак у нашую бібліятэку.

Пасля гэтага спаткання з'явілася ў мяне такая рэфлексія: ці беларус у Польшчы, будучы прафесарам універсітэта і займаючы высокую пасаду ў ваяводскіх уладах, хацеў бы пры нагодзе так умела папулярызаваць сваю мову і народную культуру? На маю думку, не. Ці згаджаецеся са мной?

* * *

У снежні 1990 года ў Беларускім грамадска-культурным таварыстве ў Гданьску адбылася аўтарская сустрэча з Віктарам Шведам.

Беларусы, пражываючыя ў Гданьску (тады амаль сталіцы Польшчы) урэшце дачакаліся спаткання з літаратарам. Аўтарскіх сустрэч не было праз пяць апошніх гадоў. Якая ж была тады наша радасць, калі пад канец года крыху папаўнела каса Галоўнага праўлення БГКТ і нам удалося хуценька наладзіць аўтарскае спатканне з В. Шведам. Паслухаць і паразмаўляць з выдатным беларускім паэтам прыйшло многа людзей, асабліва моладзі. Гданьскія беларусы пыталі паэта пра жыццё, творчасць і дзейнасць на роднай ніве. Гарачыя воплескі раздаваліся пасля кожнага верша. А яны ў Шведа простыя, цікавыя, меладыйныя і трапляюць непасрэдна ў сэрцы слухачоў.

Большасць старэйшых прысутных на спатканні якраз родам з Беласточчыны, і ім вершы адкрывалі вобразы роднай вёскі, нагадвалі мінулае, бацькоў і дзяцінства.

Малодшыя слухачы, якія ўпершыню мелі магчымасць пабачыць сапраўднага беларускага пісьменніка, захапляліся дзіцячай творчасцю — гумарыстычнай, такой праўдзівай, як штодзённае жыццё, але ўмела адзетай у словы. Незабыўныя ад сустрэчы ўражанні разбудзілі патрыятызм, любоў да роднай мовы, спадчыны. Моладзь прасіла Віктара Шведа напісаць ім сцэнічны твор. Аўтар паабяцаў гэта. Чакаем.

Пасля гэтай сустрэчы адзін з вучняў гданьскай беларускай школкі Тамаш Чурак вывучыў верш В. Шведа „Я беларус" і выступіў з ім на дэкламатарскім конкурсе ў Беластоку.

Аўтарскія сустрэчы нам вельмі патрэбныя. Беларускія пісьменнікі, калі ласка, сардэчна запрашаем у Гданьск!

**Анна Іванюк**




## АЎТАМАТЫ

*Ахвярам 13 студзеня*
*ў Вільнюсе прысвячаю*

Рокатны танкаў крок,
Грудзі раскройваюць кулі.
Льецца нявінная кроў —
Плачуць няўцешна матулі.
Смерці патрэбна зноў смерць,
Толькі жыццё — чалавеку,
Каплям крыві — скамянець,
Слёзам — маўклівыя рэкі.
Корчыцца з мук цішыня:
Дулы настаўлены ў грудзі,
Радасці новага дня
Выстралы болем студзяць.
Долы, умыты крывёй,
Туляць ахвяру шчыльна.
— Маці! За працай такой
Марыла бачыць ты сына? —
Сёння пытаю я вас:
Час наш суровы і грозны.
Думайце: ёсць яшчэ час,
Бо заўтра быць можа позна.
За смерць і мукі ў кляцьбе
Сын прыдбаў страшнае імя,
Заўтра мо з ім на цябе
Ён аўтамат свой падыме.
Стане з усімі ў свой рад,
Будзе ён рад ці не рады,
Бо ні адзін аўтамат
Не асуджае загады.
Спэўніць высокі загад,
Хоць зледзянее душою,
І абрасіць аўтамат
Мацеры чыстай крывёю.

**Мікола Грышан,**
Раготна
*15 студзеня 1991 г.*

## МЫ З МОВАЮ БУДЗЕМ СВАЁЙ БЕЛАРУСКАЙ

Пасля нараджэння першыя словы
Пачуў я ў люльцы з матчынай мовы.
Можа прыйшлі яны з добраю казкай,
— Засвоіў я разам з матчынай лаcкай.
Можа пазнаў іх, як пела мне — „люлі"...
— Матыў беларускі ў ёй вушы пачулі.
Пачуў я мелодыю роднае мовы,
— Усе ў нашай мовы цудоўныя словы.
Ад пра-пра-пра-прадзедаў, дзедаў, бацькоў
Яна зберагла нам усю велічнасць слоў.
Яна ў ліхалеццях нас гартавала,
— Ад згубы народ наш заўжды ратавала.
Адмовіцца мовы — варожы спакусы,
Бо з мовою толькі жывуць беларусы!
І нам нашай мовы ганебна цурацца —
За родную мову трэба змагацца!
У ёй мілагучнасць — не горш італьянскай,
Не ўступіць французскай, англійскай, іспанскай.
Яна не уступіць ні польскай, ні рускай,
Мы з мовою будзем сваёй — беларускай!

**Віталь Макарчык,**
Навагрудак

# ПАД ЗНАКАМ ТОЙ ЖА ПАГОНІ

Культурныя, гістарычныя, а таксама часткова моўныя сувязі паміж беларусамі і літоўцамі з'яўляюцца настолькі блізкімі, што не заўсёды нават мы тое сабе ўсведамляем. Памятаю, якое было маё здзіўленне, калі я, будучы яшчэ студэнтам, даведаўся, што так распаўсюджанае ва ўсходнеславянскіх гаворках Беласточчыны слова *клуня* фактычна — гэта літуанізм так як і *дойлід*, адкуль назва сённяшняга квартала Беластока — *Дойліды*. І толькі пасля, таксама з навуковых крыніцаў, дазнаўся я, што месцазнаходжанне балтаў даходзіла ў свой час да паўночнай Валыні. Адсюль і распачалося іх вандраванне на поўнач. Некаторыя вучоныя падазраюць, што ў II —I тысячагоддзі да нашай эры існавала нават балта-славянская абшчына, якая пасля распалася ў другой палове гэтага ж першага тысячагоддзя. Але як бы там ні было гістарычны лёс беларусаў, часткова украінцаў і літоўцаў аднолькава склаўся ў адзіных дзяржаўных утварэннях: Вялікім княстве Літоўскім, Расійскай імперыі ды часткова ў Літоўска-Беларускай ССР (у 1919-1920 г.г.). Спрыяла гэта ўсялякім палітычным, эканамічным і культурным узаемасувязям, якія працягваюцца і па сённяшні час. Аднак, калі беларуска-ўкраінскія культурныя і літаратурныя ўзаемасувязі сталі аб'ектам даследаванняў яшчэ ў сямідзесятых гадах (Тацдяна Кабржыцкая, Вячаслаў Рагойша, „Карані дружбы", Мінск, 1976), дык такімі ж беларуска-літоўскімі ўзаемасувязямі вучоныя абедзвюх краін пачалі цікавіцца ўсяго ў апошнія гады. Плёнам жа гэтых зацікаўленняў стала кніжка Альмы Лапінскене і Адама Мальдзіса „Пераэовы сяброўскіх галасоў. Беларуска-літоўскае літаратурнае ўзаемадзеянне ад старажытнасці да нашага часу"*), якая нядаўна выйшла ў мінскім выдавецтве „Навука і тэхніка".

Кніжка гэтая надзвычай займальная і шмат новага ўносіць як у кампаратывісцкую, так і гістарычна-літаратурную навуку, запаўняе даволі істотны прабел у існуючых дагэтуль даследаваннях, адкрывае яшчэ адзін мацярык малавядомых да гэтай пары культурных і літаратурных узаемасувязяў паміж двума суседнімі народамі, звяртае ўвагу на іх гістарычную супольнасць, пачынаючы ад удзелу літоўцаў у этнагенезе беларусаў, які сёння ўжо не выклікае ніякага сумнення.

Узаемадзеянне гэтае зараджалася яшчэ ў старажытнасці, у перыяд фармавання беларуска-літоўскай дзяржаўнасці — Вялікага княства Літоўскага, якое, — як піша Адам Мальдзіс, — узнікала не столькі ўзброеным шляхам (хаця і былі ваенныя сутычкі), колькі шляхам добраахвотнага далучэння, што адпавядала інтарэсам абодвух народаў у абароне перад татарамі. Наспяванне неабходнасці ў моцнай дзяржаўнай уладзе, якая забяспечыла б не толькі агульнасць тэрыторыі і гаспадарчай дзейнасці разрозненых земель заходняй Русі, але спыніла феадальную анархію і міжусобную барацьбу, а таксама знешнюю агрэсію, спрыяла аб'яднанню і тых рускіх зямель, на якіх пачала фармавацца і ўкраінская нацыя. Такім чынам літоўска-беларуска-ўкраінская дзяржава з XIV ст. да 1569 г., якая з 1454 г. афіцыйна называлася Вялікае княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае, дасягнула Чорнага мора.

У чатырох першых раздзелах Адам Мальдзіс засяроджваецца аднак на культурных аспектах і ўзаемадзеянні на той тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага, якая ў 1569 г. не адышла палякам.

(Працяг на стар. 4)



## КАПІТАЛІЗМ З ГАРАНТЫЯМІ

Вось рашыў напісаць вам, прачытаўшы ў „Ніве“ нешта такое, што мяне кранула. Зразумела, гэтым я не хачу ўмешвацца ў вашыя справы ці павучаць вас. Проста хачу выказаць свой погляд і свае думкі адносна адной спрэчкі, якая ідзе ўжо нейкі час у асноўным паміж Аўрорай і М. Панфілюком.

Трэба пры гэтым сказаць, што газета ваша даволі дэмакратычная і дае слова то аднаму, то другому. І вось яны спрачаюцца. А спрэчка ідзе аб тым, як раней жылося і як цяпер стала ці становіцца. На маю думку, пры розных дзяржаўных ладах было сваё станоўчае, было і адмоўнае. Справа ў тым, як выглядала прапорцыя добрага і нядобрага. Капіталізм XVIII ці XIX стагоддзяў меў і лапці, меў і прыгонны лад. Праўда, на Захадзе гэтага было менш, чым на Усходзе, аднак беднаты ўсюды хапала. Сацыяльнай дапамогі бедным, што цяпер існуе на Захадзе, у часы Маркса і раней проста не было. Таму і пайшлі розныя, меншыя і большыя, рэвалюцыі. Таму і пачаў Маркс пісаць у тыя часы свой „Капітал“.

Рэвалюцыі ў Расіі не былі выпадковыя. Хаця рускія памешчыкі і прадавалі збожжа за мяжу, сяляне ведалі, што такое голад, і таму патрабавалі зямлі. Колькі было паўстанняў за гэта, маленькіх і вялікіх?! На гэтым, як і на іншым, зайграў Ленін і яго кампанія. Канешне, яны яшчэ больш ашукалі сялянства, ды як брутальна! Не даў зямлі сялянам Сталін, не аддаў назаўсёды Ленін, ды і Гарбачоў працягвае гэту справу. Ведаю я, што калгасы ў асноўным не рэнтабельныя, працаваў я ў іх, як жыў яшчэ ў СССР. Аднак трэба сказаць праўду, у часе Брэжнева ў магазінах быў і абутак, і адзенне, і харчы. Быў танны транспарт, дармовая медыцына, школы. З другога ж боку іншадумства ў часы Брэжнева сяклося вострa, нацыянальныя культуры народаў у СССР разбураваліся моцна, што бачна цяпер на Беларусі. У часы Гарбачова прыйшлі перамены, запахла воляй. Аднак, не прыйшла яна яшчэ поўнасцю. За гэта людзі яшчэ змагаюцца.

Але за што ж гэта яны змагаюцца, ці за лепшае?! Калі магазіны зрабіліся такія пусценькія?! З гэтым у Польшчы не зусім так, як у Беларусі, аднак падабенства ёсць. А можа гэта бюракраты-камуністы сабатуюць перамены?! На ўсё ёсць свая цана, і на той „дабрабыт“ у часы Брэжнева. Можа гэта і крой мільёнаў ахвяр ранейшых часоў. А можа лепш волі больш мець, чым дабрабыту з застоем... Бачыце, якія парадоксы атрымліваюцца! А можа трэба гэтак і ў магазінах, і волю мець? А можа перабудова да гэтага і вядзе? Хаця блытанымі шляхамі, але вядзе?! Я думаю, што перабудова на самай справе адбываецца

(Працяг на стар. 5)



# Нештодзённая сустрэча

1 лютага 1991 года ў сядзібе рэдакцыі пры вуліцы Сураскай 1 у Беластоку адбылася сустрэча прадстаўнікоў беларускай грамадскасці Беласточчыны з працаўніком Міністэрства замежных спраў Вялікабрытаніі і II сакратаром брытанскага пасольства ў Польшчы ў адной асобе містэрам Лоўрэнсам Бройдам. У сустрэчы ўдзельнічалі: Віталь Луба (галоўны рэдактар „Нівы“), Яўген Міранoвіч (гісторык, намеснік старшыні Галоўнай рады БДА), Лявон Тарасэвіч (мастак), Яўген Паплаўскі (войт гміны Гарадок), Віктар Стахвюк (каардынатар Краёвай управы БДА), Сакрат Яновіч (літаратар, старшыня Галоўнай рады БДА), Ян Тапалянскі (арганізатар Злучнасці гмінаў Усходняй Беласточчыны), Міраслаў Целушэцкі (бізнесмен з ЗША) і Ян Максімюк (журналіст „Нівы“ і перакладчык ангельскамоўнай літаратуры, які на гэтай сустрэчы ды на ўсіх беластоцкіх перамовах Лоўрэнса Бройда выступаў у сваёй другой прафесіі, г.зн. у якасці перакладчыка).

Містэр Лоўрэнс Бройд хоць і не ў змозе быў свабодна размаўляць па-беларуску і карыстаўся перакладчыкам, але як высветлілася, вывучаў ён нейкі час беларускую мову на універсітэце і, звыш таго, знаёмы быў з бальшынёю даступных на Захадзе публікацыяў пра пытанні беларускай меншасці ў Польшчы. У прыватнасці II сакратара брытанскага пасольства цікавіла эканамічная сітуацыя гмінаў Усходняй Беласточчыны — сітуацыя гэтак званай Усходняй Сцяны. Прысутныя на сустрэчы прадстаўнікі беларускай грамадскасці далі містэру Бройду поўную ў гэтай справе інфармацыю.

**Аляксандр Максімюк**
Фота аўтара



# ПАД ЗНАКАМ ТОЙ ЖА ПАГОНІ

**(Працяг са стар. 3)**

Агляд беларуска-літоўскіх узаемасувязяў на культурнай ніве беларускі даследчык пачынае з „великославного места Виленского“ ў перыяд існавання Вялікага княства Літоўскага, праз раздзелы „Агульнасць лёсу“ (у XIX — пачатку XX ст.ст.), „У міжваеннае дваццацігоддзе“ і „Маці мая, Беларусь!“. Працягвае іх у раздзелах „Сяброўскія кантакты“, „Служыць збліжэнню ўзаемапераклад“, „Ад агульнасці жыцця — да агульнасці тэматыкі“, „Падобныя і — розныя“ — вядомая літоўская даследчыца, адзін з нешматлікіх даследчыкаў літоўска-беларускіх культурных і літаратурных узаемасувязяў у Акадэміі навук Літоўскай ССР Альма Лапінскене. Раздзел „У адзінай сям'і“, які датычыць літаратурнага ўзаемадзеяння пасля аднаўлення савецкай улады ў Літве ў ліпені 1940 г., як і заключэнне, напісаны сумесна.

Аказваецца Францыск Скарына, віленскія выданні якога („Малая падарожная кніжка“ і „Апостал“) сталі ўзорам для пазнейшых аналагаў Марцінаса Мажвідаса і Мікалоюса Даукшы, быў не першым друкаром з тадышніх зямель Вялікага княства Літоўскага. Сваёй кнігавыдавецкай дзейнасцю гадоў на трыццаць пяць—сорак раней апярэдзіў Скарыну Ян з Літвы (Ян Літвін, Джон Літоў). Вучоным пакуль што не ўдалося прыйсці да адназначнага вываду, ці быў ён этнічным літоўцам ці беларусам. У 1480 г. заснаваў ён першую друкарню ў лонданскім сіці, затым, прабыўшы там тры гады (з У. Мэхлінскім выдаў у Лондане на англійскай мове некалькі кніг па правазнаўству), пераехаў у Кракаў, у якім у 1491 г. памагаў праўдападобна Швайпольту Фіёлю ў выданні першых славянскіх кніг для русінаў, гэта значыць, украінцаў і беларусаў, пражываючых у адной дзяржаве — Вялікім княстве Літоўскім. Адам Мальдзіс мяркуе, што якраз Ян з Літвы натхніў Францыска Скарыну пасля ягонага прыезду у Кракаў у 1504 г. на далейшую кнігавыдавецкую дзейнасць ужо на роднай ніве, даючы яму некаторыя адрасы ў Італіі і Чэхіі, дзе быў ён студэнтам „Літоўскай калегіі“, а затым авалодаў друкарскай справай (у Генуі і Неапалі ці ў Рыме).

Увесь раздзел „У „великославном месте Виленском“ напісаны з характэрным Адаму Мальдзісу вялікім веданнем праблематыкі і дае ўсебаковае ўяўленне пра „руска“-літоўскую сталіцу XVI ст., у якой пражывала ў той час амаль палавіна праваслаўных (пераважна беларусаў) і столькі ж католікаў (у большай частцы этнічных літоўцаў).

Беларуска-літоўскае культурнае ўзаемадзеянне, якое так плённа развівалася на хвалі Рэнесансу і Рэфармацыі, амаль цалкам прыпынілася ў сувязі з узмоцненай паланізацыяй беларусаў і літоўцаў і агульным крызісам феадальнай сістэмы ў XVII—XVIII ст. Таму Адам Мальдзіс зразу пераходзіць у XIX — пачатак XX ст., калі Беларусь і Літва ўвайшлі ў склад Расійскай імперыі. Якраз тады пачаўся працэс станаўлення новых беларускай і літоўскай літаратур (у Літве з „Чатырох пораў года“ К. Данялайціса, у Беларусі — з ананімных вершаў і інтэрмедый яшчэ XVIII ст., а таксама з „Камедыі“ К. Марашэўскага). Аднолькавасць гістарычных умоў і культурна-мастацкіх уплываў прадвызначыла і тыпалагічную агульнасць беларускай і літоўскай літаратур Новага часу. Гэткае падабенства выступае ў творчасці самых буйных у сваіх літаратурах паэтаў сярэдзіны XIX ст. — Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча і Антанаса Баранаўскаса. Віленскі універсітэт з'яўляўся своеасаблівай „ка-

# ПАЛІ, ГРЭЙ...

— Палі, Валечка, печку, грэй, — штодзённа паўтарае маці, — грэй, каб цёпла было, а Віця, як прыйдзе, ляпей нагрэе!

Валя маўчыць, бо і што ёй засталося? Маці ляжыць пяты год і не ўстае з пасцелі, а муж амаль штодзённа п'е і б'ецца. Добра, калі яна паспее ўцячы, а калі не — бяда.

Гэта было, здаецца, нядаўна, а столькі прайшло! Валя была адна ў бацькоў. Дом мелі, зямлі трохі. Кавалераў многа сваталася. Валі спадабаўся Мікіта. Добры быў хлопец, працавіты. Бацькам таксама спадабаўся. Бяда толькі ў тым, што Мікіта быў адзін у бацькоў. Яму трэба было браць жонку дадому, а не ісці ў прымы. Бацькі не хацелі аддаць дачку з дому, бо хто іх, старых, даглядаў бы?

Адзін толькі Віця згадзіўся ісці ў прымы.

Калі толькі пажаніліся, Віця быў добры. Стараўся ўсіх задаволіць. Гаварыў, што трапіў у рай. Паходзіў з беднай сям'і і нават не марыў, што можна пад'есці досыта хлеба. Тут было ўсё.

Калі выеўся і адзеўся, тады пачаў паказваць свае „мухі". Пачаў піць і сварыцца з жонкай і свекрамі. Яму не падабалася, што дзіця плача ноччу. Пасля пачаў біць Валю. Свекар, як кожны бацька, уступіўся за дачку. Віця біў і яго. Ад пабояў стары захварэў і памёр.

Віця ўсё чапляўся да жонкі. Дзяцей і свякруху не чапаў. Калі падраслі сыны, то не раз адлупцавалі бацьку. Пакуль сыны былі дома, то было добра Валі, а як пайшлі ў горад, зноў пачалося пекла.

Віця пойдзе на цэлы дзень і п'е з сябрамі, а калі прыйдзе дадому, адразу бярэцца біць. Валя ўсё выглядае, ці ён не ідзе, а калі ўбачыць, то загадзя ўцякае. Печку нагрэць трэба, бо як вылежала б хворая маці? Маці кожны раз, калі Валя зімой бярэцца паліць печку, паўтарае:

— Палі, Валечка, печку, грэй, а Віця ляпей нагрэе...

**Аўрора**

# КАРОТКІ АБРЫС БЕЛАРУСКАГА ПЫТАННЯ

ПАДРЫХТАВАЎ АЛЯКСАНДР БАРШЧЭЎСКІ

**З ДАКУМЕНТАЎ ГЕНЕРАЛЬНАГА ШТАБА (ІІ АДДЗЕЛА), ВАРШАВА 1928.**

**— 34 —**

Дванаццатага снежня, гэта значыць, праз месяц пасля першага сходу, правыя члены Рады запрапанавалі ўтварэнне „Дырэктарыяту", які складаўся б з некалькіх асоб. Эсэры не згадзіліся з гэтым праектам. Трынаццатага снежня эсэры і сацыял-федэралісты ў колькасці 50 асоб аб'явілі сябе поўнай Радай і не дапусцілі да залы пасяджэнняў 37 асоб кампраміснай меншасці. Гэта аднабаковая Рада пацвердзіла сваю пастанову ад 25 сакавіка 1918 года, абвяшчаючую незалежнасць Беларусі, прыняла пратэст супраць польскай „акупацыі", выбрала новы прэзідыум.

Старшынёй Рады Рэспублікі быў выбраны праф. Пётр Крэчэўскі, а прэм'ерам Вацлаў Ластоўскі. Склад урада Ластоўскага быў наступны:

Ластоўскі Вацлаў — прэм'ер-міністр

Валькові Аляксандр — міністр фінансаў,

Краскоўскі — міністр асветы,

палкоўнік Езавітаў — міністр вайны,

Грыб Тамаш — міністр унутраных спраў,

Цвікевіч Аляксандр — міністр замежных спраў,

Жыдховіч — міністр па справах нацыянальных меншасцей,

кс. Станкевіч — міністр веравызнанняў.

Урад Ластоўскага назначыў наступных дыпламатычных прадстаўнікоў.

У Берліне: прадстаўнік — Бароўскі, сакратар — Бандажэўскі, чыноўнік — д-р Ян Цвікевіч (брат міністра).

У Чэшскай Празе: прадстаўнік — Вашынін, сакратар — Станкевіч (брат ксяндза).

У Канстанцінопалі (адначасна для Балгарыі і Сербіі): прадстаўнік — палкоўнік Ермашэнка.

Склад Рады Рэспублікі быў наступны: **Прэзідыум:** 1) старшыня Крэчэўскі, 2) Бадунова, 3) Козіч, 4) Мамонька, 5) Захарка, апрача гэтага: 6) Баранаў, 7) Буцька, 8) Гарэцкі, 9) Грыб, 10) Езавітаў, 11) Карабач, 12) Краскоўскі, 13) пратаерэй Карчынскі, 14) ксёндз Кухта, 15) Ліндэ, 16) Паўліна Грыб-Мамонька (жонка міністра), 17) Міхалевіч, 18) Аўсянік, 19) Пракулевіч, 20) Родзевіч, 21) Гусак, 22) Станкевіч, 23) кс. Станкевіч, 24) Шыла, 25) Тарашкевіч, 26) Валькові, 27) Валэйша, 28) Варонка.

Тым часам прыхільнікі „Дырэктарыяту" — кампрамісная частка Рады засядала пад старшынствам Лёсіка ў прыватнай кватэры аднаго з дэпутатаў. Вынікам гэтай нарады было стварэнне Найвышэйшай Рады, у якую ўвайшлі: 1) старшыня Ян Серада (С-Д), члены: 2) ксёндз Абрамовіч, капелян рэлігійнага саюза „Хрысціянская злучнасць", 3) Вацлаў Іваноўскі, рэдактар часопіса „Беларусь", 4) Лёсік (левы С-Д), 5) Рак-Міхайлоўскі, 6) Смоліч (С-Д), 7) Тарэшчанка (правы С-Д) і 8) Уласаў (С-Д). Найвышэйшая Рада стварыла ўрад з А. Луцкевічам на чале. Як бачым, у Найвышэйшай Радзе апынуліся Тарэшчанка і В. Іваноўскі, былы член урада Ластоўскага ў Мінску. Магло гэта быць вынікам або падзелу партыі эсэраў, якая падзялілася на правых, супрацоўнічаючых з Найвышэйшай Радай і левых — падтрымліваючых урад Ластоўскага, або вынікам палітыкі партыі эсэраў, якія імкнуліся мець сваіх людзей нават у варожых палітычных арганізацыях, каб такім чынам трымаць руку на пульсе беларускага жыцця.

Прадстаўленыя вышэй падзеі разбілі беларускі рух на дзве арыентацыі. Узніклі два ўрады. Дзве Рады Рэспублікі, прычым больш кампрамісная, якая назвалася Найвышэйшай, мела меншыя ўплывы ў грамадстве, чым эсэраўска-камуністычная Рада.

Пастаўлены на чале ўрада Ластоўскі накіраваў да народа праклямацыю, у якой заявіў, што створаны ім урад мае выканаўчую ўладу.

Праклямацыя была пашырана канспірацыйным шляхам. Польскі ўрад, даведаўшыся аб эсэраўскай дзейнасці, загадаў арыштаваць урад Ластоўскага як нелегальны орган. Іншыя выдатныя дзеячы Рады і партыі эсэраў, між іншым, старшыня Рады Крэчэўскі ўцяклі за мяжу.

Ластоўскі найдаўжэй сярод іншых членаў урада знаходзіўся ў астрозе — адзін месяц. Выпушчаны на свабоду восенню 1920 года, выехаў у Рыгу. Выселены з Латвіі ў выніку польскай інтэрвенцыі, пераехаў у Коўна, дзе ў гэты час сабраліся ўсе члены яго ўрада. Урад Ластоўскага пачаў у Коўне міжнародную антыпольскую дыпламатычную акцыю, а на тэрыторыі Гародзеншчыны і Віленшчыны дыверсійна-палітычныя дзеянні.

*(Працяг будзе)*

# АДГАЛОСКІ

**(Працяг са стар. 4)**

так, што трэба раскідаць хатку, напрыклад, каб яе нанава перабудаваць, раскідаць ажно да падмуркаў.

Гаварыць гэтак адно, а перажываць на сваёй шкуры — нешта зусім іншае. Прытым яшчэ, я ж жыву сам пры „капіталізме", а вы яшчэ да яго толькі пераходзіце! Ды й капіталізм у Англіі, гэта ўжо не той, з часоў Маркса, а ён уперамежку з сацыялізмам. Ці паверыце? І дармовая медыцына існуе, і школы (хаця ёсць і платныя), і сацыяльная дапамога беспрацоўным, — усё гэта ёсць. І яшчэ ёсць субсідыі англійскага ўрада фермерам, каб лепш працавалі і г.д. Чым гэта не сацыялізм?! Праўда, пры гэтым хапае і капіталізму! Жыццё напэўна не райскае: ёсць і інфляцыя, трэба і працаваць, каб адносна добра жыць, ёсць і іншыя праблемы. Аднак гэтага не параўнаць, кажу, з цяперашнімі праблемамі ў Польшчы ці на Беларусі.

Шляху назад ужо ў вас няма, толькі наперад. Але што чакае там? І праўда, чакае вас, мусіць, капіталізм такі, які ёсць у Балівіі, Бразіліі або ў Індыі, дзе інфляцыя часамі дасягае 2000 прац. у год. Не, не хачу я вас палохаць, але сама логіка гаворыць за гэта. Разбурыўшы адно і пачаўшы будаваць іншае, трэба пачынаць з нуля. Аднак і збудавалі ж японцы, ці паўднёвыя карэйцы, ці нават немцы?! Чаму мы не збудуем? Разумею Аўрору, якая хоча, каб былі такія перамены, што яшчэ лепш стане жыць! Гэтак, мусіць, большасць людзей і спадзявалася, што будзе больш волі, ды ў прыдачу лепшае матэрыяльнае жыццё. Аднак, каб спыталі людзей, ці хочаце такой волі, ды з карткамі на харчы і г.д., то, мусіць, людзі ў большасці не захацелі б ніякіх перамен! Аднак, разумею я і Панфілюка. Чысты і класічны капіталізм і яму не падыйдзе, калі ён дробны ўладар на зямлі. Патрэбна нешта іншае, дзе б быў і разумны сацыялізм, дзе б быў і сапраўдны капіталізм, хоць з нейкімі гарантыямі для людзей. Усё ж невыпадкова мы маем на гэтым свеце тое і іншае. Невыпадкова ў краінах Заходняй Еўропы існуюць часам вельмі моцныя сацыял-дэмакратычныя партыі, а ў некаторых краінах, як у Швецыі, яны і кіруюць. Так што, сябры, ёсць выйсце, але гэта праўда, вельмі цяжкое выйсце. Аднак, і масты назад ужо ўзарваныя. Ці шкадаваць мінулае — столькі там было праліта крыві, хоць і быў нейкі дабрабыт. Аднак, думаю, і Аўрора, і Панфілюк жадалі дэмакратыі і волі, і я з імі, канешне. Вось воля і прыходзіць, праўда пад ёй трэба нанава арганізавацца эканамічна, каб зажыць. А на гэта патрэбен час і змаганне.

**Пятро Грыгальчык, Бірмінгем, Англія**

лыскай" як для новай беларускай, так і літоўскай літаратур. У той і крыху пазнейшы час у абедзвюх літаратурах з'явіліся выдатныя творчыя індывідуальнасці, якія пераадольваючы ранейшае адставанне, далучыліся да агульнаеўрапейскага літаратурнага працэсу. Янка Купала сябраваў з выдатным літоўскім пісьменнікам Людасам Гірам, Марыяй Ластаўскене (жонкай Вацлава Ластоўскага), мастаком Мікалоюсам Чурлёнісам. Тэрмінамі „Літва" і „Беларусь" з мэтай адрознення больш дакладна сталі карыстацца толькі ў сярэдзіне XIX ст.

Добра беларуска-літоўскія ўзаемасувязі Адам Мальдзіс прадставіў і ў міжваеннае дваццацігоддзе. Актыўнымі прапагандыстамі беларускай літаратуры сярод літоўскай грамадскасці былі ў той час прафесары Каўнаскага ўніверсітэта браты Вацловас і Мікалас Біржышкі. Нацыянальны ўціск і прыгнёт, адмаўленне права беларусаў, літоўцаў і ўкраінцаў не толькі на нацыянальную незалежнасць, але і на „культурную аўтаномію" спрыяла аб'яднанню інтэлігенцыі гэтых народаў у сваёй нацыянальнай працы і нацыянальнавызваленчай барацьбе. Шмат літоўцаў Віленшчыны ўваходзіла ў „Грамаду", папулярнымі сярод літоўскага насельніцтва былі такія выданні ЦК КПЗБ на літоўскай мове, як: „Раудонойі велява", „Валсцечу балсас", часопіс „Бедзевіс", а таксама „Барыкадос" і „Жынёс". У Коўні на беларускай мове выходзілі: „Наша зямля", „Пагоня", „Вольная Літва", „Беларускі сцяг", „Варта бацькаўшчыны", „Светазор", „Покліч" („Наш покліч"), „Часопісь Міністэрства беларускіх спраў", а таксама месячнік „Крывіч", „Беларускі асяродак" і „Вайсковы".

Літоўскія пісьменнікі П. Цвірка, Л. Гіра, С. Нярыс і А. Венцлава былі аднымі з першых, якія накіраваліся ў Маскву, каб хадайнічаць аб прыёме ў склад СССР. Піша пра тое ў раздзеле „У адзінай сям'і" Альма Лапінскене. Было гэта ў 1940 г. Аўтар даволі дэталёва аналізуе беларуска-літоўскае культурнае ўзаемадзеянне ў гэты перыяд, а затым літаратурныя і сяброўскія кантакты пасля вызвалення. Цікавасць да літоўскай літаратуры ў Беларусі і наадварот узрасла ў шасцідзесятыя гады. Несумненна спрыяў гэтаму выхад анталогій братніх літаратур як на літоўскай, так і беларускай мовах з мэтай узаемнага збліжэння, а таксама арганізаваныя ў абедзвюх рэспубліках дні літоўскай і беларускай літаратуры. Культурнаму і літаратурнаму беларуска-літоўскаму ўзаемадзеянню служыць узаемапераклад, якому літоўская даследчыца прысвяціла шмат увагі. Адным з найлепшых яго ўзораў з'яўляецца анталогія „Літоўская савецкая паэзія" (1977). Шляхам тыпалагічнага аналізу Лапінскене раскрывае агульнасць і адметнасць беларускай і літоўскай літаратур, ідэйную і мастацкую сугучнасць паэмы Ю. Марцінкявічуса „Кроў і попел" і ваеннай прозы В. Быкава, творчыя паралелі паміж Э. Межалайцісам і А. Куляшовым, падобнасць паэтычных светаў А. Куляшова і Ю. Марцінкявічуса. Параўнанне гэткае дае магчымасць выявіць і самабытнасць кожнай літаратуры.

Як Адам Мальдзіс, так і Альма Лапінскене базіруюць на даволі шырокім матэрыяле. І хоць закранаюць яны выбраныя, але, на іх думку, найбольш важныя пытанні, тым не менш праца іх дае даволі грунтоўнае ўяўленне пра беларуска-літоўскае літаратурнае і культурнае ўзаемадзеянне на працягу шматвяковай супольнай гісторыі.

**Юры Трачук**

* *А. П. Лапінскене, А. І. Мальдзіс, Перазовы сяброўскіх галасоў. Беларуска-літоўскае літаратурнае ўзаемадзеянне ад старажытнасці да нашага часу, „Навука і тэхніка", Мінск 1988, сс. 248.*

**НІНА АМЕЛЬЯНЮК**

# ГУТАРКІ АБ МОВЕ

**IV. СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА. МАРФАЛОГІЯ.**

**15. Злучнік — працяг.**

Паводле функцыянальнага значэння, злучнікі падзяляюцца на *злучальныя і падпарадкавальныя.*

*Злучальныя злучнікі* служаць для сувязі сінтаксічна раўнапраўных адзінак: аднародных членаў сказа і частак складаназлучанага сказа. У залежнасці ад таго, што могуць паказваць на розныя адносіны паміж часткамі сказа, падзяляюцца на: *спалучальныя, супастаўляльныя, пералічальна-размеркавальныя і далучальныя.*

*Да спалучальных злучнікаў* залічаюцца злучнікі: *і, ды* (са значэннем *і*), *таксама як — так і.* Выражаюць яны адносіны пералічэння спалучальнасці. Найчасцей ужываецца злучнік *і*, які выкарыстоўваецца ў сказах з адначасовасцю дзеянняў: *Туман яшчэ нізка вісеў над вадой, і ўгары над ім сінела вячэрняе неба.* (Чарн.) і ў сказах, у якіх выражаецца паслядоўнасць дзеянняў: *Пачуўся званок, і Серж горда ўвайшоў у клас, з усмешкай пaглядаючы на ўсіх.* (К.Ч.)

*Супастаўляльныя злучнікі* выражаюць адносіны неадпаведнасці ці супрацьстаўлення з'яў, фактаў: *а, але, ды* (са значэннем *але*), *аднак, затое. Месяц свеціць, ды не грэе.* (Прык.). *Мы ўсё разумеем, але парадак ёсць парадак.*

*Пералічальна-размеркавальныя* злучнікі паказваюць на пералічэнне прадметаў, з'яў ці дзеянняў: *Адна за адной — то вясёлыя і шумныя, то працяглыя і шырокія — ліліся песні ў прастор.* (Шам.), або на ўзаемнае выключэнне пэўных з'яў: *Ці ён памыліўся, ці конічак збіўся?* (К-с). Сярод пералічальна-размеркавальных найчасцей ужываюцца злучнікі: *або, ці, і — і, ні — ні, то — то, ці то — ці то, не то — не то.*

*Далучальныя злучнікі* служаць для далучэння дадатковай інфармацыі да ўжо аформленага і як бы закончанага сказа. Толькі далучальнымі з'яўляюцца злучнікі: *ды і (дый), і то, ды і то, прытым, прычым: Праскочыць чыгунку днём цяжкавата, ды і рызыка лішняя.* (Лыньк.)

*Падпарадкавальныя злучнікі* служаць для сувязі сінтаксічна нераўнапраўных адзінак: частак складаназалежнага сказа і паказваюць на залежнасць дададай часткі ад галоўнай. У залежнасці ад таго, якія выражаюць адносіны, падпарадкавальныя злучнікі падзяляюцца на:

— *тлумачальныя: нібы, чым, што, як: Не ведаў я, што нашы сцежкі так разышліся назаўжды.* (Вас.),

— *прычынныя: бо, затым што, з-за таго што, з прычыны таго што, паколькі, таму што: Старой, вядома, можна даравaць, паколькі яна баіцца не за сябе.* (Б),

— *часавыя: калі, як, пакуль, ледзь, чуць, з таго часу як, пасля таго як, як толькі...: Сядзі, грыбе, пакуль на цябе хто надыбе.* (Прык.).

— *умоўныя: калі, калі б, каб, як, як бы, раз, калі — дык...: Калі б на хмель не мароз, ён бы тын перарос.* (Прык.),

— *мэтавыя: каб, для таго каб, дзеля таго каб, з тым каб, абы: Зямлёю ж твой розум нямала заняты, каб выгляд надаць ёй другі.* (К-с),

— *уступальныя: хоць, хоць бы, хай, няхай, нягледзячы на тое, што: Ды жыцця не спыняць, не скуюць марозы, хоць зямлю пакрые тоўстай коўдрай снег.* (Вас.),

— *параўнальныя: бы, як, як бы, як быццам, нібы, што...: І гасне дзень у задуменні, як гаснуць жыцця летуценні.* (К-с),

— *выніковыя: так што, то, дык: Шмат пахадзіў па свеце, дык і пабачыў усяго.* (Е.Л.).

Прамежкавае становішча паміж злучальнымі і падпарадкавальнымі злучнікамі займаюць *паясняльныя* злучнікі, якія служаць для сувязі сінтаксічных адзінак, з якіх наступная паясняе змест першай: *гэта значыць, менавіта, або, ці: Кожны мацярык мае і сваю адметную фауну ці жывёльны свет.*

Ад злучнікаў трэба адрозніваць *злучальныя словы*, ролю якіх могуць выконваць адносныя займеннікі і займеннікавыя прыслоўі: *які, чый, каторы, хто, што, дзе, куды, адкуль, калі, як.* Ад злучнікаў адрозніваюцца яны тым, што:

— з'яўляюцца членамі сказа ў дадзенай частцы,

— на злучальныя словы можа прыпадаць лагічны націск,

— нельга іх апусціць у сказе або замяніць іншым словам без змены сэнсу сказа. Параўн.: *Тады яны ўжо добра разумелі, чым іх сустрэне вораг?* (Маш.), дзе *чым* — злучальнае слова, якое ў сказе выконвае функцыю дапаўнення, і *Няма на свеце большае пашаны, чым жыць з народам думаю адной.* (Зв.), дзе *чым* — злучнік, які можна замяніць злучнікам *як* і значэнне сказа не зменіцца.

## У ВІЛЬНІ

Беларусы ў Вільні, якія ўжо раней згуртаваліся ў клубе „Сябрына" і Таварыстве беларускай культуры, зараз намагаюцца наладзіць асветную справу сярод дзяцей і моладзі. Ужо другі год працуе нядзельная школа, у якой група школьнікаў вывучае беларускую мову, літаратуру і гісторыю. Змяшчаецца яна ў Сярэдняй школе № 37 у Вільні. А ў СШ № 32 для 15 вучняў арганізаваны факультатыў па вывучэнню беларускай мовы. У верасні гэтага года плануецца ў адной з віленскіх школ адкрыць беларускі клас. У Віленскім педагагічным інстытуце створана сталая штатная адзінка па пытаннях беларускай нацыянальнай школы ў Літве. (л)

## ПЁТР БАГРОЎСКІ З РУТКІ

Аб гэтым маладым чалавеку варта сказаць некалькі слоў на старонках „Нівы". Родам ён з вёскі Рутка, што ў Дубіцкай гміне. Гадоў пару назад Пётр Багроўскі паспяхова закончыў Сельскагаспадарчую акадэмію ў Варшаве з дыпломам інжынера-меліяранта. У часе сваёй вучобы ў сталіцы быў ахвярным прапагандыстам беларускага слова сярод студэнтаў, належаў да мясцовага гуртка БГКТ і быў сябрам студэнцкай арганізацыі. Падтрымліваў лучнасць з іншымі студэнтамі, якія былі родам з Беласточчыны. Пасля вучобы ў Варшаве вярнуўся ў родную вёску, адкуль двойчы падаўся ў Вялікабрытанію. Вярнуўшыся з замежжа, рашыў, што яго месца ў роднай вёсачцы: купіў у Малых Пасечніках драўляную хату і перавёз яе на бацькоўскі панадворак. Сам выканаў патрэбны хаце рамонт, правёў у ёй цэнтральнае ацяпленне. Шмат што Пётр пабудаваў на вялікім бацькоўскім пляцы — мае тут быць нейкае прадпрыемства, але ўсё гэта яшчэ ў таямніцы. Можна толькі меркаваць, што хлопец рашыў выкарыстаць свае веды якраз у сваёй роднай вёсцы, а пабыўка ў Вялікабрытаніі дала яму патрэбныя дзеля гэтага прыклады. Сам кажа, што гэткі куточак, як Рутка, мог бы быць залатой жылай, толькі не было дагэтуль адпаведных варункаў. Хаця сёння жыхары Руткі глядзяць з пэўнай ірoніяй на пошукі і вынаходніцтвы Пятра, дык ён сам аптымістычна глядзіць у сваю будучыню.

Я горача намаўляю Пятра Багроўскага, каб ён напісаў у „Ніву" пра свой побыт у Вялікабрытаніі. Будзе гэта каштоўная для „Нівы" праца. Некаторыя беларусы гэтак жа зрабілі. Для прыкладу: Сакрат Яновіч, які хоць і не вельмі доўга прабываў у Англіі, але ягоныя ўспаміны аказаліся цікавымі і карыснымі; Алесь Барскі, успаміны якога з ЗША ўзбагацілі старонкі „Нівы". Шкада толькі, што выдатны вучоны і паэт Ян Чыквін не зрабіў падобнага, бо ў Англіі быў ён не адзін раз. Звяртаюся з заклікам і да Пятра Багроўскага, каб падзяліўся ён сваімі ўражаннямі пра Англію. Думаю, што на гэта знойдзе ён хвілінку часу, бо мэта высакародная.

**Мікалай Панфілюк**

**ем?** — Галена вылівае гарбату з кубка на талерку і п'е з яе.

Наташа, дачка настаўніцы і партыйнага дзеяча на чыгунцы, гаворыць, што падабаецца ёй у Польшчы, найбольш — магазіны. Хацела б пазнаёміцца з польскімі дзецьмі. Думала, што яны будуць у сям'і, якая іх узяла.

Сям'я С. бяздзетная. Свабодны час праводзяць у падарожжах. Былі ў Італіі, Грэцыі, Югаславіі і Савецкім Саюзе. — **Можам сабе на гэта дазволіць,** — гавораць. — **Жывецца нам не найгорш.**

Дзяўчынкі пераборлівыя ў ежы і гэта смуціць іх апякунку. Салат з гародніны толькі паскубалі. — **Столькі намарнавалася. Кукурузныя камякі на малацэ таксама ім не смакуюць. Толькі сасіскі.**

— **Я думала,** — гаворыць пані Мар'я, — **што дзеці будуць больш замораныя.**

Пані Мар'я падрыхтавала дзве кардонкі на рэчы з чамаданаў гасцей. Дзяўчынкі ачысцілі ад пылу месца каля бібліятэчкі і ўладзілі свой куточак.

Наташа і Галена атрымалі ад сваіх варшаўскіх апекуноў па дваццаць тысяч злотых. — **Няхай пазнаюць вартасць нашых грошай.**

Купілі алоўкі, каляровыя гумкі-сцiркі, многа жвачкі і малыя гумавыя мячыкі. Падкідаюць іх пад столь. Мячыкі скачуць, пыл круціцца.

## ЦІ КАЦЮША СВЕЦІЦЦА

Муж Катажыны з Ахоты тэлефанічна з-за акіяна адобрыў замысел жонкі прыняць дзяўчынак з Беларусі. Бацькам і цесцям таксама гэта спадабалася. Толькі знаёмыя пыталі: — **Нашто табе такі клопат?** Іншыя непакоіліся: — **Ці гэтае дзіця свеціцца?**

24-гадовая Катажына была, бадай, наймалодшай кандыдаткай на апякунку гасцей з Усходу. Дзяўчынку далі ёй зараз жа, хаця яна была ў рэзервовым спіску. Дванаццаць чалавек, якія запісаліся раней, не прыйшло.

Адзінаццацігадовая Кацюша, дачка лекаркі і інжынера, прывезла ліст ад бацькоў з падзякай за апеку над дачкой. Сынку Катажыны падаравала некалькі цацак, а сваёй апякунцы — водку і каву.

Пакой Кацюшы ўжо на другі дзень запоўніўся рэчамі: курткі, світары, боты, джынсы, спаднічкі. Уся сям'я прычынілася да гэтага. Трэба будзе пачкі высылаць, бо ў Кацюшы толькі адна сумка.

## ПРЫВІЛЕЙ НА БАЗАРЫ

Пенсіянерка з Жалібожа кружыла між дзецьмі і арганізатарамі, якія яе праганялі, бо адзінокая. Раптам пачула паведамленне арганізатараў: асталося яшчэ дзесяць хлопцаў, просім разбіраць. Ніхто не адгукнуўся. Найлепш ішлі дзяўчынкі.

Пані Крыстына, бібліятэкарка-пенсіянерка, звярнулася да арганізатараў: — **Па праўдзе кажучы, сёння мяне ганяеце, але не ведаеце, што з гэтымі дзецьмі зрабіць — вазьму двaіх.** — Гэтым разам ніхто не пярэчыў.

— **Мой дэвіз — быць карысная,** — рэкамендуе сябе пані Крыстына.

Жыццё правяла сярод кніг як бібліятэкарка. Сёння атрымоўвае 550 тысяч злотых пенсіі. Маці і мужа страціла на працягу тыдня некалькі год таму назад. Асталася адзінокай у двухпакаёвай кватэры.

У адным з пакояў абсталявала чатырнаццацігадовага Андрэя, сына настаўніка, і трынаццацігадовага Віктара, сына канструктара. Хлопцы хутка падружылі і сталі добра сябе адчуваць дома. Гаспадыні ўручылі падарункі: сурвэту і цукеркі. Потым выгрузілі прадметы для продажу: доўгі сыр, каўбасу, паяльнік і гадзіннікі. Пані Крыстына купіла сыр і каўбасу.

У суботу завезла іх на базар пад Палац культуры. Ад рускіх аж кішэла. Памаглі ім устанавіць цэны. Базарны інкасатар патрабаваў выкупіць білет. Пані Крыстына адвяла яго ўбок: — **Гэтыя хлопцы з-пад Чарнобыля,** — шапнула. Інкасатар паглядзеў, паківаў галавой і пайшоў. За заашчаджаныя дзесяць тысяч купіла апельсінаў.

Пані Крыстына запісалася на дзяўчынак, бо менш ядуць і менш з імі клопатаў. Пасля двух дзён пабыўкі хлопцаў заўважыла, што з імі таксама зусім добра: не перабіраюць, апетыт не празмерны. З'ядуць кашанку з цыбуляй і белы сыр.

Пры нагодзе цешыцца, што трапіліся ёй даволі заможныя і да таго прадпрымальныя хлопцы. Не трэба будзе іх адзяваць, пра што так горача прасілі працаўнікі Фонда.

Хацела завесці Андрэя да лекара, бо ў яго спечаныя вусны, але ён сказаў, каб гэтым не пераймацца, бо гэта ад радыяцыі. — **У вас мне палепшыцца. Таму мы сюды і прыехалі.**

**Ірэна МАРАЎСКАЯ**
(„Gazeta Wyborcza")

## ЗАМАЛЁЎКІ З ЖЫЦЦЯ

### ...А Ў СЭРЦЫ ЗАСТАЛОСЯ!

— Не возьмеш яе! О не! — крычаў грозна бацька. — Якая яна нам раўня? Мы і калісь былі не абы-хто, а яе сям'я?! Куча басаты!

— Цяпер зусім іншы час. Цяпер можна жыць і без вашай славы, — адазваўся Мірэк.

— Добра, як сабе хочаш. Бяры вось гэту Агату-бедату! Толькі памятай, я табе нават залатоўкі не дам! Вяселля рабіць не буду і не пайду на твой шлюб. Ідзі так, як стаіш!

— Хто гэта бачыў, — умяшалася бабуля, — каб мой унучак браў за жонку ўнучку Міхасябасаты?! Бедныя яны былі. Ніхто іх за людзей не лічыў. Бегалі па чужых загонах.

— Цяпер і сваіх ніхто не хоча, — узлаваўся Мірэк. — Што было калісь, усё прайшло. Цяпер і багаты, і бедны амаль на адным узроўні.

— Не была свіння ў небе, не будзе Агата на тваім хлебе. Не дапушчу! — крычалі бацька і бабуля.

Маці запярэчыла, дурнем яе абазвалі.

Так грызліся цэлы вечар. Спаць леглі позна. Мірэк не мог заснуць. Думаў, як яму жыць. Выйсці без нічога можна. Вышэйшая адукацыя ёсць, а ў Агаты „паматуральная“. Неяк будуць жыць. Але з адных толькі зарплат не разгуляешся. Яе бацька п'е, а яшчэ ёсць дзве сястры. Маці ў нічым не паможа. Усё купі і... дзе ні кінь — там клін! Каханне каханнем, хутка пройдзе ў такіх абставінах. Там, дзе бяда ўваходзіць праз дзверы, там каханне ўцякае праз вакно...

Пойдуць дзеці, Агата будзе штораз больш злосная. „Мо не раз будзе сварыцца на мяне, а я магу выгарнуць ёй, што адрокся праз яе ад сям'і. Эх!“

Бабуля і бацька — людзі старых поглядаў. Ужо месяц так яму дагрызаюць.

Шкада было Мірку адрачыся Агаты, але рашыў.

Сустрэліся, як заўсёды, у садзе. Мірэк сказаў, што пастанавіў.

— Калі табе багацце даражэйшае, чым я, — сумна сказала Агата, — то бывай!

Мірэк вярнуўся дадому і, заплаканы, лёг спаць.

Праз год Агата выйшла замуж. Мужам была задаволена. Муж быў багаты, але ні ён, ні свёкры ніколі не сказалі Агаце, што яна прыйшла да іх голая. Шанавалі яе.

Праз два гады адбыўся шлюб Мірка. Урэшце бацька з бабуляй выбралі яму жонку. Мірэк не кахаў яе. Жыў, абы жыць. Заўсёды лавіў сябе на тым, што гледзячы на жонку, думаў аб Агаце. Ледзь стрымоўваўся, каб не назваць яе іменем сваёй каханай дзяўчыны.

Жаніўся сваяк. Мірэк з жонкай пайшоў на вяселле. На вяселлі былі і Агата з мужам. Мірэк не мог адарваць ад яе вачэй.

Чаму не я з ёю, а ён? — пытаў сябе ў думках і праклінаў сваю дурную галаву.

Упіўся, што аж сам ісці не мог. Пачаў тады праклінаць бацьку, бабулю і сябе, што іх паслухаў.

Пасля вяселля Агнешка спыталася, што абазначалі яго паводзіны. Мірэк шчыра аб усім расказаў. Жонка якісь момант маўчала, а пасля ўздыхнуўшы сказала:

— Жыць неяк трэба. У нас трое дзяцей...

**Аўрора**

## КУХОННЫЯ ПАРАДЫ

### КАТЛЕТЫ З МЯСА І РЫСУ

На 30 дэкаў свініны без косці або 25 дэкаў ялавічыны і 5 дэкаў саланіны трэба ўзяць паўтары шклянкі зваранага рысу, 1 яйка, 15 дэкаў цыбулі, 2 лыжкі алею, 3-4 лыжкі пасечанай зялёнай пятрушкі, 3-4 лыжкі цертай булкі, шмалец.

Мяса ачысціць, памыць, асушыць, парэзаць і змалоць у мясарубцы. Яйка памыць і выліць яго ў мяса. Абабраць цыбулю, дробна нарэзаць яе, пасаліць, падагрэць на малым агні, памешваючы. Калі змякне і пачне жаўцець, дадаць тлушчу і падсмажыць. Мяса перамяшаць з рысам, яйкам, цыбуляй і пятрушкай, добра вымясіць драўлянай лыжкай, дадаць солі і перцу. З падрыхтаванай масы рабіць тонкія, авальныя катлеты, мачаць іх у цертую булку. Смажыць з абодвух бакоў, кладучы на патэльню з гарачым тлушчам. Варта яшчэ патэльню з падсмажанымі катлетамі ўставіць на некалькі мінут у духоўку.

Падаваць з бульбяным пюрэ і варанай гароднінай ці сырымі салатамі. Вельмі падыходзяць да гэтай стравы таматны ці грыбны соусы.

### КАТЛЕТЫ З ФАСОЛІ І МЯСА

Падрыхтоўваюць іх таксама, як і катлеты з мяса і рысу, толькі замест рысу бяруць паўтары шклянкі зваранай і змолатай у мясарубцы фасолі. Усё астатняе робім так, як у папярэднім рэцэпце.

### МЯСА, ТУШАНАЕ З ГАРОДНІНАЙ

На 30 дэкаў свініны трэба ўзяць 1 кг мешанай гародніны (морква, пятрушка, сэлер, пор, цыбуля), 1 лыжку мукі, 2-3 лыжкі шмальцу, крыху майранку, соль, перац, 2 шклянкі варанай фасолі, 1 шклянку смятаны, 4 лыжкі пасечанай зялёнай пятрушкі.

Мяса ачысціць, памыць, нарэзаць костачкай, пасыпаць прасеянай мукой, крыху падсмажыць на тлушчы, даліць вады, пасаліць, тушыць на малым агні, дадаўшы дробна нарэзанай цыбулі. Гародніну памыць, абабраць, нарэзаць, усыпаць у каструльку, дадаць тлушч, пасаліць, на гэта палажыць падтушанае мяса. Тушыць далей разам, даліваючы па меры патрэбы крыху гарачай вады. Праз паўгадзіны дадаць майранак, фасолю і смятану. Запраўціць соллю і перцам.

Падаваць з макаронам і бульбай.

**Гаспадыня**

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Я працую настаўніцай. Зімою мне ўдалося выехаць у настаўніцкі дом адпачынку. Якраз былі зімовыя канікулы. У доме адпачынку было вельмі прыемна і весела. Мясцовасць цудоўная, горы, настрой у мяне таксама быў цудоўны. Тым больш, што ўжо на першым (запазнаўчым) вечары я пазнаёмілася з прыстойным мужчынам, праўда, быў ён крыху старэйшы за мяне, але мне гэта не перашкаджала. Я яшчэ незамужняя, а ён у першы ж вечар сказаў мне, што з жонкай не жыве. І так пачаўся мой цудоўны „горны“ раман з надзеяй на будучыню, паколькі высветлілася, што і ён з Беластока. Вядома, горш, калі чалавек жыве далёка. Я ведала пра тое, ды, зрэшты, чытала і ў тваіх парадах, Сэрцайка, што такія раманы амаль ніколі не вытрымліваюць пробы часу. Але мы былі з аднаго горада.

Я адчувала сябе шчаслівай і мне нават у галаву не прыходзіла, што гэты чалавек так мяне ашуквае. Навошта гэта яму было патрэбнае? Мог жа быў адразу сказаць пра ўсё, як яно ёсць. Адным словам, пасля цудоўна праведзеных пару тыдняў, я вясёлая вярнулася дахаты. Нават выехала крыху раней, мой знаёмы — таксама (сказаў, што без мяне няма тут чаго рабіць). Была якраз апошняя субота карнавалу, і я хацела трапіць на гэты дзень дахаты. Справа ў тым, што мая сяброўка з суседняй школы, таксама настаўніца, запрасіла мяне на баль у іх школу. Пра хлопца не непакойся, казала яна, у нас іх шмат, для цябе хлопец знойдзецца.

На вакзале я развіталася са сваім новым знаёмым, і ён абяцаў пазваніць мне ў бліжэйшы час. У суботу як ні ў чым не бывала я пайшла на той абяцаны баль. І ўяві сабе, Сэрцайка, каго я там убачыла? Убачыла майго знаёмага з маладой настаўніцай з гэтай школы, якая навучала там ад нядаўна англійскую мову. Усё ў нутры ў мяне пахаладзела, калі мне сказалі, што гэта муж і жонка, якія надта кахаюць адно другое. І сапраўды, увесь вечар ён не адрываў ад яе вачэй. Ён прытуляўся да яе і абцалоўваў з усіх бакоў, а я мусіла глядзець на ўсё гэта. Мне, вядома, далі нейкага хлопца, даволі прыстойнага і някепска танцуючага, але што гэта была за прыемнасць, калі ўсе мае думкі былі з „маім“ каханым з дома адпачынку. А ён не звяртаў на мяне ніякай увагі. Нават калі выпадкова нашы вочы сустракаліся, ён адводзіў іх далей, так, быццам я была пустым месцам. Я адчувала сябе прыніжанай, ашуканай і нешчаслівай. А я ж так верыла яму...

І цяпер прашу цябе, Сэрцайка, скажы мне, калі ласка, ці варта нават гаварыць з гэтым чалавекам, калі ён пазвоніць мне? А мо пазваніць яму самой? І сказаць усё, што накіпела на душы. Скажы, калі ласка!

**Бася**

Бася! Пазваніць то ён табе пазвоніць, чаму не... І нават не будзе перапрашаць цябе. Твой новы знаёмы гэта тыповы прыклад лавеласа, які цвёрда трымаецца сваёй жонкі, не трацячы, аднак, нічога з прыемнасцей, якія прапануе яму жыццё. З такім чалавекам добра было б схадзіць у кіно ці выпіць кілішак. Але лічыць на яго ты не можаш, тым больш, што такія людзі наогул жонак не кідаюць. Не хапіла б грошай на разводы! Тым больш было б смешна, калі б ты званіла яму і папракала ў нявернасці. Манюка толькі гэтага і чакае!

**Сэрцайка**

## ВЕР-НЕ ВЕР

Дарагі Астроне, што за сон мне прысніўся! Еду я быццам са сваёй сястрой (яна ўжо не жыве) на адным ровары. Сястра кіруе, а я сяджу ў яе на плячах, сяджу так высока. Едзем мы простаю сцежкай. На сцежцы ўсялякія перашкоды, і я баюся, каб хаця не ўпасці. Але сястра едзе вельмі роўна, абмінае ўсе гэтыя перашкоды і ровар нават не пахіснецца. Я здзіўляюся, як яна можа так роўна ехаць. Быццам бы ехалі мы ў горадзе. Урэшце выехалі з горада і гэтай жа сцежкай паехалі дамоў, на вёску, дзе я жыву.

**Веся**

Астроне! Калі мая дачка выходзіла замуж, мне прысніўся страшны сон. Быццам бы іду я, іду невядома куды і раптам трапіла ў вялікае балота. Гэта балота пачынае яе засасваць, і мая дачка ў ім прападае, так што я яе ўжо амаль не бачу. І тады з гэтага балота робіцца бетон, які быццам бы замярзае і я ўжо думаю, што не выцягну сваю дачку з гэтага балота. Але раптам бачу, што нешта яшчэ жывое тліцца пад гэтым лёда-бетонам. Я працягваю туды сваю руку і дастаю маленечкае сэрца і гляджу: з гэтага сэрца робіцца дзіцятка. І зноў мая дачка жывая.

Пасля таго сну я сказала дачцэ: „Не выходзь яшчэ замуж, падумай!“, але дачка мая мяне не паслухалася і выйшла замуж. А праз паўгода падала на развод, бо застала мужа з іншай дзяўчынай. Як ты думаеш, Астроне, ці атрымае яна развод?

**Алена**

Веся! Выглядае на тое, што ты скінеш з плеч нейкі цяжар і ніякія перашкоды не будуць у стане ўжо пашкодзіць табе. Тое, што ты вярнулася дахаты, на вёску, сведчыць аб тым, што, бадай, пасля нейкіх цяжкасцей у тваім жыцці вернецца спакой і задавальненне.

Алена! Сон твой сведчыць аб тым, што менавіта ён выратуе яе з таго балота, у якое яна трапіла. Больш таго, дачка твая знойдзе спакой у жыцці.

**Астрон**

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## ЗІМОВАЕ

Як хараша, калі на шэрую зямлю, на лёд ракі ды дарогі пасцелецца велізарнае палотнішча іскрыстай снежнай белі. Куды ні глянь — усюды бела. Усё зачараванае снежным дзівам. Палі і лугі ў летаргічным сне пад белай коўдрай. У беленькіх гольфах стаяць прыдарожныя бярозкі. Белыя сумёты на берагавым схіле...

Сонца, мароз і вецер. Эх, завіраваў, разгуляўся!.. Так і скрабе па хрупкім снезе, так і падвільвае белымі вужакамі снежнага пылу. Гоніць яго па полі, цераз гасцінец, зноў па полі і — пад лес. Шаша выслізгана і прадзьмута там-сям да люстранага бляску. А сонца такое, што не зірнеш на снег!

Прыемна на санях, калі вясёлы конь імчыць і толькі фыркае насустрач ветру!

На ўзлессі пад напорам ветру гнуцца дрэвы, гойдаюцца, стогнуць, а пад ногі ім вецер ссыпае ўвесь снег, які сабраў на полі. Кладуцца, прасуюцца сняжынкі — растуць высокія снежныя гурбы.

У лесе цішэй. Вецер лютуе толькі ў вершалінах. Ніжэй, над долам губляе сваю сілу. Сняжынкі падаюць тут павольна, роўным пластом усцілаючы дол. Пні пад шапкамі снегу нагадваюць цудоўныя стварэнні. Цёпла пад снегам маленькім ёлачкам — яны быццам ватай абкладзены. Ляжыць марозны снег на лапах вялікіх ялін...

Дуга чапляецца за голле дрэў, і на конскую спіну цярушыцца белы іскрысты пыл.

**Янка Целушэцкі**

**Уладзімір Мацвеенка**

## ЗАГАДКІ

### ЗАЙКІ-ЗАГАДАЙКІ

65
Конь не просіць сена вехаць,
На ім можна верхам ехаць.
Мільгацяць два колы-ногі
І імчаць ускрай дарогі.

66
Я на трубку гляну
І скажу Івану,
Ці яму ісці гуляць,
А ці ў ложку паляжаць.

67
Дзве рукі, два зубы маюць,
Цвік за капялюш трымаюць.

68
Мяне з доміка бяруць,
Галавой аб сценку труць.
Я заўсёды раззлуюся
І адразу запалюся.

69
Я не чарапаха-робат,
Але працаваць люблю,
Я не слон, але ў свой хобат
З дывана ўвесь пыл лаўлю.

**Адказы на загадкі знойдзеш у наступным нумары.**

Адказы на загадкі з папярэдняга нумара: 60. Ноты. 61. Цымбалы. 62. Ракета. 63. Тэлефон. 64. Мох.



**Куды ні глянь — усюды бела... Фота Я. Целушэцкага.**

## ЁЛКА Ў СЕМЯНОЎЦЫ

У суботу, 26 студзеня, у школе ў Семяноўцы адбылася ўрачыстасць — навагодняя ёлка. На 14 гадзіну прыйшлі дзеці, бацькі вучняў, а нават дзядулі і бабулі і вучні сярэдніх школ.

Вучні спявалі песні, дэкламавалі вершы, ставілі п'есы „Чалавек павінен мець сабаку", „Гвоздзь" і іншыя.

Урэшце прыйшоў Дзед Мароз, у чырвоным плашчы і шапцы, з белай барадой з ваты і мяшком, поўным падарункаў.

— Вітаю вас, дарагія дзеці! Цяжка мне, старому! Снегу няма, марозу няма, а вам падарункі прывезці трэба!

Падарункі атрымалі вучні і іх настаўнікі, былі пачкі і для вучняў сярэдніх школаў. Былі таксама падарункі ад грамадскай апекі для дзяцей, якія не маюць бацькоў, і дзяцей з многадзетных сем'яў.

Калі Дзед Мароз рушыў у дарогу да іншых дзяцей, вучні ўключылі магнітафон і пачаліся танцы.

**Ірына Салавей**

**Максім Багдановіч**

### ЗІМОВАЯ ДАРОГА

Шпарка коні імчацца у полі,
Сумна бомы гудзяць над дугой,
Запяваюць аб долі і волі,
Навяваюць у сэрцы спакой.

Ўюцца змейкай срабрыстай дарожкі,
Брызгі золата ў небе блішчаць,
І маркотныя месяца рожкі
Праз марозную мглу зіхацяць.

Поле нікне у срэбным тумане,
Снег блішчыць, як халодная сталь,
І лятуць мае лёгкія сані,
Унашуся я ў сінюю даль.

## Пішуць школьнікі

**Дарагая „Зорка"!**

Пішуць да цябе вучні III, IV і V класаў школы ў Крыўцы.

На ўроку беларускай мовы мы чыталі афрыканскую казку з „Зоркі" пра храбрае куранятка. Потым малявалі, і нашы найцікавейшыя малюнкі высылаем табе.

З пажаданнямі ўсяго добрага ў Новым годзе —

**вучні пачатковай школы ў Крыўцы.**

**Дарагія дзеці!**

Вялікае дзякуй за малюнкі! Я вельмі рада, што так спадабалася вам казка пра храбрае куранятка. Дзеці з многіх школаў, цэлымі класамі ці паасобна, прыслалі шмат прыгожых малюнкаў. На жаль, не ўсе зможам публікаваць на нашых старонках. Некаторыя малюнкі такія прыгожыя, каляровыя, што друк не паказаў бы нават грама мастацтва іх творцаў — вядома, „Зорка" яшчэ не каляровая (можа калісьці будзе?..).

Усе вашыя малюнкі цяпер на выстаўцы ў нашым рэдакцыйным „Зорчыным" пакоі — захапляюцца імі і працаўнікі „Нівы", і госці.

Чакаем новых малюнкаў!

**„Зорка"**

## ЗАЛАТАЯ СЯКЕРА

Жылі-былі два браты: адзін багаты, другі бедны. Багаты не ведаў, як час прабавіць, бо не было яму патрэбы працаваць. Жыў ён у дастатку і раскошы. Затое бедны брат цэлымі днямі сек у лесе дрэвы і зарабляў на харч сабе і сваёй сям'і. Усё яго дабро было — адна сякера.

Аднойчы валіў ён дрэвы на беразе ракі і незнарок упусціў сякеру ў ваду. Вось і не ведае цяпер бедны мужык, што рабіць далей, — ісці ўвечары дадому без кавалка хлеба і глядзець, як плачуць галодныя дзеці ён не мог. Прысеў на беразе і лье слёзы горкія. Плакаў, плакаў, нарэшце падыходзіць да яго маленькі сівы дзядок і кажа:

— Не плач, дапамагу я твайму гору. Раскажы, што за бяда з табой здарылася?

Расказаў бедны мужык пра сваё няшчасце. Дзядок паабяцаў дастаць сякеру са дна ракі, і бедны брат супакоіўся.

Падышоў дзядок да вады, сунуў у яе руку, выцягнуў сярэбраную сякеру і пытае:

— Гэта твая?

— Не, — адказвае бядняк.

Потым дзядок выцягнуў залатую сякеру і пытае: ці не яна?

— Не, і гэта не мая, — кажа бядняк.

Пад канец выцягвае дзядок сякеру беднага брата, і брат з падзякай яе ўзяў. Бядняк хацеў ужо быў узяцца за працу, але дзядок яму і кажа:

— Паслухай, калі гэтая сякера зарабляе табе гэтулькі хлеба, дык тыя змогуць яшчэ больш! — і аддаў бедняку і залатую і сярэбраную сякеры.

Прыйшоўшы дадому, бедны брат застаў сваю сям'ю вясёлай і задаволенай за накрытым сталом. Жонка расказала яму, што прыходзіў маленькі дзядок і даў ім грошай. З таго часу пайшлі ў беднага брата справы ўсё лепш і лепш. Праз год ён быў ужо такі багаты, як і яго брат, і пабудаваў сабе новы, прыгожы дом.

Калі ўсё было гатова, з'явіўся багаты і, здзіўляючыся, пытае ў брата, як ён дамогся такога да-

(Працяг на стар. 10)




## ЛОСЬ

Лось — гэта млекакормячая жывёла з сям'і аленевых. Жыве ў лясной і лесастэпавай зонах Усходняй Еўропы, Азіі і Паўночнай Амерыкі. Найбольш ласёў трапляецца ў глухіх поймавых лясах, на балоцістых участках, паросльх хвояй і вярбой, асабліва па суседству з сухімі хвойнымі або мяшанымі лясамі, восенню ў бярэзніках, асінніках, алешніках, чарнічных і верасовых хвойніках. Корміцца парасткамі, карой лісцевых дрэў і кустоў, хвояй, травяністымі раслінамі, вярбой, асінай, рабінай, крушынай, чаромхай, верасам, чарніцамі, брусніцамі, крапівой, асакой, злакамі, аерам, імхамі, лішайнікамі, грыбамі і іншым (больш за 250 відамі раслін).

Лось — самы вялікі сярод аленевых: даўжыня цела самца — 2,5-3 м, маса цела да 500 кг, самкі драбнейшыя. Валасяное покрыва грубае, цёмна-бурае на спіне, белаватае на бруху і нагах, у ласянят мяккае, густое, светла-бурае. Рогі (толькі ў самца) вялікія, пераважна лапатападобныя, у канцы восені спадаюць, да жніўня наступнага года адрастаюць зноў. Самкі бязрогія. Галава лася вялікая, шыя кароткая і тоўстая, вушы доўгія, шырокія, востраканцовыя. На горле — скурны выраст („завушніца"). Тулава масіўнае, кароткае. Ногі доўгія. На спіне высокі карак („горб").

Лось трымаецца статкамі па 3-5 жывёл. У статку адна або некалькі ласіх і ласяняты рознага ўзросту, самцы найчасцей жывуць паасобку. Палавая спеласць — у 3 гады. Цяжарнасць ласіхі — 8,5 месяца. Нараджаюцца па 1-2 цялят у маі-чэрвені. Лось жыве каля 20 гадоў.

## ЗАЛАТАЯ СЯКЕРА

(Працяг са стар. 9)

статку. Бедны брат расказаў усё, як было, і багаты памчаўся з усіх ног дадому: вырашыў ён пайсці ў той лес і яшчэ большае багацце сабе здабыць. Прыйшоў ён на бераг валіць дрэвы, разы са два сякерай ударыў і закінуў яе ў ваду. Потым сеў на беразе і загаласіў на ўвесь лес.

Прыйшоў дзядок і пытае, чаму плача так горка. Расказаў. Калі дзядок выцягнуў з ракі сярэбраную сякеру, багаты адразу закрычаў:

— Давай сюды, стары, гэта мая!

Паслухаўся яго дзядок і аддаў сякеру. З залатой сякерай атрымалася гэтак жа, і з яго жалезнай — таксама. Нават дзякуй не сказаўшы, багаты спяшаецца дадому — палічыць, колькі грошай прынёс дзядок.

Ішоў, ішоў, а лесу ўсё няма і няма канца. Бачыць, заблудзіўся ён і, не доўга думаючы, лёг і заснуў. Можа раніцай знойдзе дом. А ноччу ў сне бачыць: прыходзіць да яго той самы дзядок і кажа: „Шмат ты хацеў, ды мала атрымаў. Цяпер даведаешся ты, як у нястачы жыць". І пайшоў дзядок.

Прачнуўся багаты і ніяк не зразумее, дзе ж ён знаходзіцца. Ішоў увесь дзень, вакол лес ды лес. Калі сцямнела, лёг галодны на купіну і заснуў.

Шмат дзён праблукаў багаты па лесе, галадаючы і пакутуючы, пакуль нарэшце дадому дабраўся.

**Станіслаў Шушкевіч**

## НАШЫ СЯБРЫ

Снегіры, сінічкі,
Наце вам пшанічкі,
Крупак, крошак хлеба!
Вам жа мала трэба!
Ешце, любыя сябры!
Не хавайцеся ў бары,
А жывіце у двары
Да вясенняе пары.
Вось для вас кармушкі,
Птушкі-шчабятушкі,
Нашы весялушкі!




— Тата, я сёння дастаў пяцёрку! Настаўніца пытала, колькі ног у страўса. Я сказаў, што тры. Гэта быў найлепшы адказ у класе!

— Гэта немагчыма! У страўса дзве нагі!

— Цяпер я ведаю, але іншыя гаварылі, што чатыры, а я быў бліжэй праўды...



*Дзяўчынка нясе птушкам крошкі. Якую дарожку ёй выбраць, каб хутчэй накарміць сяброў?*

# малюнкі школьнікаў



**Малюнак Марысі Пятроўскай з Пасынкаў (III клас) да казкі „Храбрае куранятка".**

## Вучнёўская творчасць

### МІХАСЬ

Сёння Міхась абудзіўся рана. Глянуў у акно — свяціла сонца, іскрыўся снег. Міхась хутка памыўся, паеў, апрануўся і выбег на двор. Быў востры мароз і Міхась націснуў шапку на вушы і тужэй завязаў шалік.

Міхасю не хацелася ездзіць на санках, а снегавіка не мог зрабіць — снег не клеіўся. Міхась звочыў вераб'я, ён еў збожжа, якое маці насыпала курам.

Міхась ужо ведаў, што сёння будзе рабіць. Хутка ўзяўся за працу — нарэзаў дошак, збіў іх, як трэба і праз гадзіну на дрэве ля акна Міхася вісела кармушка.

Міхась праз тыдзень захварэў і цэлымі днямі сядзеў дома, але не было яму сумна. Прыляталі да яго птушкі, якім цяпер нястрашны быў мароз.

**Ялапта Крутэль,**
**в. Сароча Ножка**

**Галіна Каржанеўская**

### НАСЦЯ

Кожны дзень
У час абеду
Наша Насця — непаседа.
Круць налева,
Круць направа —
На спаднічку льецца кава.
Ноччу цёмнай,
Ноччу доўгай
Наша Насця — непалёга.
Круць направа,
Круць налева —
На падушку ножка легла.

З самай раніцы затое
Наша Насця — непастоя.
І не мае
Мама з ёю
Ні хвілiначкі спакою.




БССР, 220113, г. Мінск, вул. Усходняя, д. 66, кв. 200. **Дзяменцьяў Вася** (вуч. VI класа).

☆

**Марыля Грыгарук.** Maryla Grygoruk, Kuraszewo 68, 17-207 Czyże, woj. białostockie. (вуч. VIII класа).

## Вершы Віктара Шведа

### ЛІСТ

— Зіма прыйшла да нас,
мой мілы дружа,
Усё пакрыла снежным дыванom.
Замерзлі рэкі, сажалкі і лужы
І спіць зямля зімовым моцным
сном.

Люты мароз вартуе ля парога,
Мяцеліца свой пачала капрыз.
Мне так страшэнна замярзаюць
ногі,
Ледзьве ў руцэ трымаю
даўгапіс.

### У ЦЯГНІКУ

Едзе з дарослымі ў купэ
Малы прастуджаны хлапчына.
Ён моцна кашляе, сапе
І смаркаецца безупынна.

— Змарозіла цябе зіма, —
Азваўся нейкі пан з адчаем.
— Насоўкі у цябе няма?
— Ёсць, ды чужым не пазычаю.

### КОЛЬКІ КОНІК МАЕ НОГ?

— Хто з вас адказаць бы мог,
Колькі конік мае ног?
Раптам Валіку здалося,
Што ног конік мае восем.
— Як ты палічыў, цікава?
— Вось дзве левых і дзве
правых.
— Дык чатыры — лік
дакладны!
— А пярэдніх дзве? Дзве
задніх?

### У МУЗЫЧНАЙ ШКОЛЕ

— Ты, дарагая, —
Запыталі Ніну, —
На скрыпцы іграеш?
— І на піяніна.
— Сама сабе можаш
Акампаніраваць.
Мы будзем прыгожа
Табе апладзіраваць.

### У ЛЕКАРА

Скардзіцца Андрэй:
— Вочы мне баляць.
— Трэба да вачэй
Кроплі запускаць.

— Скажыце тады,
Даражэнькі мой,
Ці пасля яды,
Ці перад ядой?

# КРЫЖАВАНКА

УПОПЕРАК: 1) птушка, якая бывае паштовай, 4) жыве побач, 7) пасталы з лыка, 9) іх біць, значыць гультаяваць, 10) плыве праз Гародню, 11) на моры адна за адной, 12) кропля з вока, 15) святочная вячэра або каша, 18) пояс (першая палавіна пастуха), 20) прадукт мыслення, 21) вынік дзеяння, 22) вымершы сваяк зубра, 24) напр. Лех Валэнса, 27) з сямейства сабачых, харчуецца мярцвячынай, 30) раптоўны напад, 31) многаструнны шчыпковы музычны інструмент беларусаў, 32) абмежаванне ў правах, прыгнёт, 33) механічнае прыстасаванне для падачы сігналу і гэты сігнал: працяжны аднастайны гук, 34) страшэнна ліпне, 35) жонка Прамцыся Пустарэвіча.

УНІЗ: 1) бязладны крык, гоман, шум, 2) можа быць простая і крывая, але найчасцей тонкая і доўгая, 3) малая, але скача і кусае, 4) след на целе або від грыба, 5) напр. мужчына, 6) дзяржава на Ютландскім паўвостраве, 8) чалавечая дзейнасць, якая стварае матэрыяльныя або культурныя каштоўнасці, 13) сродак вадзянога транспарту, 14) пад намі, 16) задавальненне, радасць, забава, 17) жонка дзядзькі, 18) від розыгрышу ў шахматах, 19) англійскі або амерыканскі спадар, 23) тое, што ўнесенае ў агульную справу, 24) крылаты конь Зеўса, 25) жывёла як пяшчота, 26) не адна ў бібліятэцы, 27) асобная рэч або нейкая з'ява. 29) шайка, банда, 29) журналістка „Нівы".

**„ядань"**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграныя ўзнагароды.

**Адказы на крыжаванку, змешчаную ў № 2. Упоперак:** кур'ер, снежань, свежаніна, клён, торт, жаваранак, канькабежац, жменя, арэлі, бас, убор, муха, этыка. **Уніз:** варажба, іканне, Крынкі, Волга, жонка, нітка, норма, жаба, Вільня, рубашка, навела, каза, кума, цяля, неба, рэха, брат, смак.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць Рыгор Пацэвіч з Беластока і Вольга Анцыповіч з Мінска.

# НІЎКА

— Праверу вам ціск тады, калі даведаецеся, колькі вам трэба мне заплаціць...

## РАЗМОВА З КАТОМ

Абрыкосавы кампот
На стале кухонным.
За акном гуляе кот,
Шэры, не вучоны.
Адкрываю сонна рот:
„Добры дзень, таварыш
кот...
Вы адкуль, прабачце,
з Мінска,
І ці маеце прапіску?"
Нечакана кажа кот:
„Хоць вучыўся ты, а бот:
У катоў няма прапісак,
Як, дарэчы, і прыпісак".
Я разгневана: „Балван!
Аферыст і хуліган!
Тут вакол перабудова,
А ты — гэтакія словы!
Дзе і што я прыпісаў?
І ты што, бяднейшым
стаў?
П'ю, спужаўшыся, кампот,
Кубак здаўся цяжкім.
Размаўляе шэры кот —
Не жыццё, а казка...
А чаго я так спужаўся?
Ці такі ўжо грэшны я?
Ну, аднойчы цалаваўся,
Хоць была ў мяне сям'я.
Ну, дастаў таблетак брату
У знаёмай без рэцэпта
І купіў пальто па блату,
Не злачынства ж, мусіць,
гэта?
І да чаркі прыкладаўся,
Дык рабілі ж гэта ўсе,
І нярэдка напіваўся
Да таго, што аж трасе.
Працаваў — не напінаўся,
Не адзін так працаваў,
Дык чаго ж я так
спужаўся,
Аж, напэўна, белым стаў?
А чаму б і не спужацца
Ад таго, што трэці год
Рэгулярна я на працы
Краду гэты вось кампот?
Абрыкосавы кампот
П'ю звышнеспакойна...
Не хадзі ля вокнаў, кот, —
Гэта непрыстойна!

**Янусь Малец**

# З польскага палітычнага гумару

Даносчык паведаміў паслу СССР у Варшаве, што палякі чытаюць кніжку, у якой напісана: „Літва, мая айчына", і паказаў яму гэты тэкст. Пасол перадаў інфармацыю аб гэтым самому Брэжневу. Неўзабаве Герку пазваніў Леанід Ільіч і гаворыць:

— Слухайце, таварыш сакратар, ёсць у вас нейкі пісака, які пра Літву піша „мая айчына".

Герак спыняе размову:

— Але ж, таварыш генсек, ён ужо не жыве.

— Гэта вельмі добра, — супакоіўся Брэжнеў, — такія справы трэба ліквідаваць у зародку.

* ✲ *

Радыё перадало інфармацыю, што на савецкім караблі паляцеў у космас паляк Міраслаў Гермашэўскі. Пачуўшы гэта, унучак пабег расказаць дзеду:

— Дзядуля, рускія выслалі паляка ў космас!

— У космас? То ўжо ў Сібір не высылаюць?

* ✲ *

Раніцай радыёстанцыя Бухарэст перадае:

— Таварышы, цяпер таварыш Чаўшэску ўстае, мы таксама ўстаем.

— Таварышы, цяпер таварыш Чаўшэску робіць фіззарадку, ма таксама робім фіззарадку.

— Таварышы, цяпер таварыш Чаўшэску мыецца, мы таксама мыемся.

— Таварышы, цяпер таварыш Чаўшэску снедае, а вы таварышы ў гэты час паслухайце музыку.

* ✲ *

— Якая розніца паміж Японіяй і ПНР?

— Японія — краіна квітнеючай вішні, а ПНР — квітнеючай ліпы.

* ✲ *

У час візіта ў Польшчу прэзідэнт ЗША разам з Геркам наведалі Закапанэ. Раптам чуюць крык і плач жанчыны. Глядзяць, а гэта гураль б'е за хатай жонку. Прэзідэнт пытаецца мужыка, за што ён так здзекваецца над жанчынай, а гураль адказвае:

— Хацела фіат — купіў, хацела мерседэс — купіў! Але цяпер захацелася ёй на верталёце гойсаць. Не куплю! Тут у нас горы і яшчэ мне баба заб'ецца.

Прэзідэнт паківаў галавою са зразуменнем, але Герак не быў упэўнены, што гэта праўда і пацікаваўся:

— Скажыце, а так напраўду, то за што вы лупцавалі жонку?

— Я ж чужому не мог сказаць, што мне жонка талоны на цукар згубіла.

*З кніжкі „Zakazany wic..."*

Мал. Славаміра Лучынскага („Кар'ер'ал")

* ✲ *

— Калі позна вяртаюся дахаты, мая жонка са злосцю спаглядае на гадзіннік.

— Табе то добра. Мая глядзіць на каляндар...

* ✲ *

Жонка ноччу разбудзіла мужа і шэпча: „Каханы, злодзей шнырыць на кухні". Муж выскачыў з ложка і схапіў злодзея. Той быў такі моцны, што змагаліся яны амаль гадзіну. Урэшце муж перамог, кінуў злодзея на падлогу, прыдушыў каленам і крыкнуў жонцы: „Каханая, дай мне шклянку вады!"

Злодзей застагнаў: „І мне таксама!"


# Ніва

Białoruski Tygodnik Społeczno-Kulturalny sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства.

Рэдагуе калектыў: Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга (адказны сакратар).

„Niwa"
ul. Suraska 1
15-950 Białystok, skr. poczt. 149
tel. 232-41, 210-33.

Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11.

Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

Warunki prenumeraty

1. Prenumeratę pocztową (z dostawą do domu) zamawiać mogą mieszkańcy wsi, osad oraz miasteczek, w których nie ma Oddziałów RSW, a także osoby niepełnosprawne, bez względu na miejsce zamieszkania.
2. Wpłaty na tę prenumeratę przyjmują urzędy pocztowe oraz doręczyciele.
3. Podstawowym okresem przyjmowania prenumeraty pocztowej jest kwartał.
4. Termin wpłat na prenumeratę pocztową na II kwartał 1991 r. upływa 20 lutego 1991 r. włącznie.
5. Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 10.400 zł + 6.500 zł za doręczenie.
6. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw Warszawa, ul. Towarowa 28. Nr konta: PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

II. Prenumerata własna — prowadzona przez wydawcę.

Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1800 zł.

Cena prenumeraty miesięcznej: — marzec — 9.000 zł.
Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 23.400 zł.

Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, Nr konta NBP O/O Białystok, 5021-3203-132.

III. Кошт падпіскі ў БССР:

— месячная — 2 руб.
— квартальная — 6 руб.
— паўгадавая — 12 руб.
— гадавая — 24 руб.

Zam. 201/91